14 снежня 2018 | № 46 (609)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Перайменаваць Каляды**

Стар. 8





www.62.ua

# Ці адбудзецца «Белэкзіт»?



Сяргей ПУЛЬША

**Увесь мінулы тыдзень (і не толькі мінулы) СМІ абсмоктвалі заяву Аляксандра Лукашэнкі наконт выхаду Беларусі з Еўразійскага эканамічнага саюза. Тэма была ўзнятая на пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета ў Санкт-Пецярбургу.**

Сутнасць спрэчкі такая: Аляксандр Рыгоравіч чарговым разам запатрабаваў ад расійскага калегі роўных з расійскімі цэнаў на газ. Маўляў, у Смаленску 1000 кубаметраў газу каштуе 70 долараў, а ўжо ў Гомелі — 129, амаль у два разы вышэй. А таму вытворчасць беларускіх тавараў — даражэйшая, што, адпаведна, не з'яўляецца «роўнымі ўмовамі гаспадарання», пра якія марылі, калі стваралі ЕАЭС.

Пуцін адказаў даволі жорстка: нагадаў, што адзіны рынак нафты і газу плануецца стварыць толькі ў 2025 годзе, для гэтага трэба «іншы ўзровень інтэграцыі», а рынкавая цана газу для Беларусі складае пад 200 долараў. І прапанаваў абмеркаваць гэта без журналістаў.

Гэткая пікіроўка ўсіх зачапіла за жывое. Потым, абмеркаваўшы праблему з Пуціным сам-насам, Лукашэнка прызнаў, што яму давялося выбачацца. Але ці ёсць за што сапраўды выбачацца?

Газавыя і нафтавыя спрэчкі ці канфлікты — балючая тэма для абедзвюх дзяржаў. А таму іх гісторыю лёгка прасачыць.

Па-першае, тарыф у 129 долараў для Беларусі ўзнік не проста так. Шырока вядома, што, калі расійскі «Газпром» набываў «Белтрансгаз», адной з умоваў гэтай здзелкі беларускі бок ставіў зніжэнне кошту газу для краіны. І такое пагадненне было дасягнутае, — да 2014 года. Потым тарыфы ўзгадняліся, але пра нейкія «льготы» тут казаць не выпадае. І калі газавы манапаліст не павышае кошты на газ для Беларусі да пуцінскіх «рынкавых» — значыць, на тое ёсць прычына.

Прычына простая. Лукашэнка яе агучыў: кошт транзіту газу ў Беларусі складае 3 долары за 1000 кубаметраў на 100 кіламетраў. Але справа ў тым, што, паколькі «Газпром» — уладальнік «Белтрансгазу», гэты кошт транзіту ён плаціць, фактычна, сам сабе. А ў бюджэт Беларусі ідуць толькі падаткі ад ААТ «Газпром трансгаз Беларусь» (былы «Белтрансгаз») і арэндная плата за зямлю пад аб'ектамі газавай інфраструктуры. А ў кошце газу для Беларусі кошт транспарціроўкі складае больш за 70%, як слушна заўважыў Лукашэнка.

І таму, калі Пуцін кажа пра «рынкавы» кошт газу, можна паглядзець на «рынкавыя» кошты транзіту. У Даніі — 13 долараў. У Венгрыі — 11. У Бельгіі — 7,60. У Францыі — 6,15 долараў за 1000 кубаметраў на 100 кіламетраў.

Нізкімі коштамі на газ у Беларусі «Газпром» фактычна апраўдвае нізкія кошты транзіту па нашай тэрыторыі. І калі «рынкавая» цана газу для нас сапраўды 200 долараў, то нам яе павысяць на 70%. А мы маем поўнае права павысіць кошт транзіту на 300–400%. Адчуваеце розніцу?

Насамрэч, кошт беларускага транзіту яшчэ даражэйшы — з палітычных прычынаў. Ніхто не прасіў Пуціна загрэбці сабе Крым і развязаць вайну ва Украіне. А гэта зрабіла транспарціроўку газу праз нашу паўднёвую суседку вельмі рызыкоўнай справай.

Канешне, ёсць «Паўночны паток» і іншыя праекты, якія яшчэ ў стадыі рэалізацыі. Але ў той жа час, па-першае, Еўропа зразумела, што Расія скарыстоўвае пастаўкі газу як палітычны інструмент. За гэты час значна прасунуліся тэхналогіі здабычы сланцавага газу і нафты. Пачаліся пошукі альтэрнатыўных паставак газу...

Пра эканамічны складнік усіх гэтых падыходаў можа сведчыць адна лічба. У час, калі «Газпром» прыватызаваў «Белтрансгаз», кошт газу ў Германіі складаў 400 долараў. Зараз, па словах самога Пуціна, — 250. І газ будзе таннець яшчэ.

Калі мы сапраўды пяройдзем на «рынкавыя» кошты газу і транзіту, расійскі газ у Еўропе будзе каштаваць столькі, што яго проста ніхто не купіць.

Зразумела, стварэнне гэтага інтэграцыйнага аб'яднання — ЕАЭС — у свой час было любімай цацкай Пуціна. А Лукашэнка пагаджаўся на стварэнне гэтага саюза з некалькімі мэтамі: танны газ, танная нафта і пералічэнне нафтавых мытных пошлінаў у бюджэт Беларусі. З таго часу Пуцін, відавочна, цікаўнасць да сваёй цацкі страціў і знайшоў новую — «русский мир». Расія пераходзіць ад мытных пошлінаў на падатак на здабычу карысных выкапняў. І ўсё, дзеля чаго Лукашэнка ўваходзіў у ЕАЭС, сэнс губляе — не будзе ані таннай нафты, ані таннага газу, ані экспартных пошлінаў.

Затое згубілі мы вельмі шмат. У першую чаргу, таму, што выконвалі дакументы ЕАЭС, калі іншыя гэтым і не пераймаліся. Яскравы прыклад — прадпрымальнікі. Мы ўводзілі сертыфікацыю ЕАЭС, адпаведнасць санітарным нормам і нормам бяспекі, іншыя правілы саюза. У выніку малы прыватны бізнес літаральна загнуўся.

З 2011 года па 1 кастрычніка 2017-га колькасць ІП у рознічным гандлі зменшылася на 27 831 чалавек, або на 28,22%. Калі ўлічыць, што стварэнне працоўнага месца абыходзіцца ў сярэднім у 4000 долараў, то агульныя страты склалі 111 мільёнаў 324 тысячы долараў. Сума плацяжоў у бюджэт ад дзейнасці ІП, што паступілі за перыяд з 2011 па 2018 гады, знізілася ў 1,8 раза. За 2013–2017 гады бюджэт страціў 258,9 мільёна долараў.

Дык можа ЕАЭС, пра што мы казалі неаднаразова, нам сапраўды не патрэбны?

# Становішча палітвязняў пагоршылася

Мікалай ДЗЯДОК

**На экстраным пасяджэнні Форуму «Свабоду палітвязням Беларусі» ў сядзібе БНФ абмеркавалі, як можна дапамагчы палітвязням, ціск на якіх узмацніўся ў апошнія месяцы.**

Удзел у чарговым пасяджэнні прынялі палітык Павел Севярынец, рэжысёр Аляксей Туровіч, маці палітвязня Тараса Аватарава Людміла Поспіх і шэраг грамадскіх актывістаў. Галоўнай нагодай для склікання пасяджэння стала паведамленне маці Тараса Аватарава, беларускага добраахвотніка ва Украіне, асуджанага на 5 гадоў нібыта за незаконнае захоўванне зброі, аб тым, што яе сыну ў калоніі пагражаюць згвалтаваннем ці забойствам.

Па словах Людмілы Поспіх, сын распавёў ёй пра гэта падчас тэлефоннай размовы напачатку лістапада. Як вынік — ён спіць урыўкамі і толькі ўдзень. З гэтай нагоды маці сумесна з праваабаронцамі напісала заяву ў Дэпартамент выканання пакаранняў, адкуль прыйшоў адказ: Тараса выклікалі на размову, пагроза жыццю і здароўю адсутнічае. Але ён пазваніў 7 снежня і сказаў, што стала толькі горш, і ні на якую размову яго ніхто не выклікаў.

Акрамя таго, дадае маці, ён ужо чатыры разы быў у штрафным ізалятары, яго скаргі на адрас дзяржорганаў не выходзяць з калоніі, затое палітвязня рэгулярна наведваюць супрацоўнікі КДБ і ГУБАЗіК. Нібыта падчас адной з такіх размоваў Аватарава папярэдзілі: пасля вызвалення ў 2021 годзе яму будзе дадзена 8 гадзін на тое, каб пакінуць краіну.

Павел Севярынец адразу абазначыў напрамак, у якім, на ягоную думку, трэба рухацца для выпраўлення сітуацыі:

— У нас 9 палітвязняў, і стратэгія іх абароны мусіць уключаць ціск на ўладу, перш за ўсё, праз Еўрапейскія гульні, якія маюць адбыцца ў 2019-м. Бо ў замежных СМІ будзе праходзіць інфармацыя пра Беларусь, пра тых, хто сядзіць у турмах. Еўрапейцы прыедуць на Еўрапейскія гульні — гэта ўсё ўсплыве. Усім стане вядома, што ў Беларусі катуюць у турмах.

Дарэчы, у калоніі Аватараў шчыльна кантактаваў з брытанцам Аланам Смітам, якога нядаўна вызвалілі.

Сам Алан у каментары НЧ пацвердзіў факт ціску:

— Я размаўляў з Тарасам і хачу сказаць, што гэта вельмі добры хлопец. На яго сапраўды аказваўся ціск з боку адміністрацыі, аднак не з боку вязняў. Што да пагрозаў, то вязні распавядалі мне пра вельмі падобныя на тыя, што гучалі ў адрас Тараса. Адміністрацыя пагражае забіць вязня, а потым сказаць родным, што тое быў суіцыд.

Не нашмат лепей справы і ў Святаслава Барановіча. Ён знаходзіцца ў ШІЗА па надуманых парушэннях амаль увесь час, і ў дадзены момант вырашаецца пытанне аб ягоным пераводзе на турэмны рэжым.

Удзельнікі форуму прыйшлі да высновы, што трэба агульнымі высілкамі дамагацца перавода Аватарава ў іншую калонію, а таксама запланавалі калектыўную падачу скаргі ў ДВП МУС. Аднак галоўны акцэнт вырашана рабіць усё ж на Еўрапейскіх гульнях, з разлікам на тое, што для захавання свайго іміджу перад Захадам улада альбо адпусціць палітвязняў, альбо, як мінімум, дасць загад спыніць катаванні.

# Міліцыя правакуе наркаманаў на злачынствы?

Захар ШЧАРБАКОЎ

**Галоўнае ўпраўленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС парушае закон пры правядзенні аператыўных мерапрыемстваў па спыненні незаконнага абароту наркотыкаў.**



Фота www.mogilev.online

Пра гэта заявіла 11 снежня ў Мінску актывістка ініцыятывы «Матчын рух 328», сябар аргкамітэта па стварэнні грамадскай арганізацыі «Наша права» Ліяна Шуба.

Ліяна Шуба прыняла ўдзел у пасяджэнні круглага стала, прысвечанага праблеме прафілактыкі і пакарання за ўжыванне і распаўсюджванне наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў. У гэтай сустрэчы таксама ўдзельнічалі прадстаўнікі Следчага камітэта, кіраўнік камісіі Палаты прадстаўнікоў па заканадаўстве Наталля Гуйвік, палітыкі і грамадскія дзеячы.

Шуба адзначыла, што часта бывае на судовых працэсах па справах паводле артыкула 328 КК (незаконны абарот наркотыкаў) у яе родным Жлобіне (Гомельская вобласць). Па словах жанчыны, на пасяджэннях часта высвятляецца, што аператыўнікі наркакантролю на працягу доўгага часу «вядуць» падазраваных.

«Чацвёра хлопцаў з Жлобіна, — прывяла прыклад Шуба. — Ідзе аператыўная распрацоўка — за імі назіраюць, як яны замаўляюць наркотыкі праз інтэрнэт, аплачваюць іх, скінуўшыся ўчатырох па 15 рублёў, праз любы інфакіёск, затым едуць у Гомель па закладку. У цягніку на зваротным шляху змешваюць псіхатроп з гарбатай, дзеляць, ужываюць у тамбуры. Наркакантроль іх не спыняе. Яны прыязджаюць у Жлобін — іх «цёпленькімі» бяруць і ў стане наркатычнага ап'янення дапытваюць».

Яна перакананая, што такія дзеянні з боку праваахоўных органаў злачынныя, паколькі тыя закліка్ны «прадухіляць злачынствы, спыніць яго, а не назіраць за тым, як людзі здзяйсняюць злачынства, і не ўмешвацца ў гэта».

У Следчым камітэце кажуць, што колькасць злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, скарачаецца. Пра гэта заявіў следчы па асабліва важных справах СК Павел Заяц. Калі ў 2014 годзе следчыя распачалі 7 060 спраў па ўсіх частках артыкула 328, то за няпоўны 2018 год распачата 4 473 крымінальныя справы.

Па словах Зайца, за дзевяць месяцаў 2018 года ў Беларусі выявілі і перакрылі 21 канал пастаўкі наркотыкаў, прычым 18 каналаў — з Расіі, па адным — з Літвы, Іспаніі і Дамініканы.

Старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў па заканадаўстве Наталля Гуйвік паведаміла, што цяпер у месцах пазбаўлення волі за незаконны абарот наркотыкаў адбывае пакаранне 5 900 чалавек. «І гэта ў большасці сваёй моладзь ад 14 да 30 гадоў, якія могуць і павінны ствараць сем'і і выхоўваць дзяцей. А ў іх тэрміны — ад васьмі гадоў і вышэй», — сказала парламентарый.

Гуйвік нагадала, што пасля выбуху распаўсюду наркатычных рэчываў у снежні 2014 года кіраўніком дзяржавы быў прыняты дэкрэт «Аб неадкладных мерах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў». На яго падставе заканадаўцы знізілі з 16 да 14 гадоў узроставую планку прыцягнення да адказнасці, павялічылі тэрміны зняволення і іншае.

«Мы мелі на ўвазе, што новыя нормы крымінальнага заканадаўства ў першую чаргу спрацуюць на «буйную рыбу» — наркадылераў, якія завозілі сюды, распаўсюджвалі гэтую бяду», — сказала парламентарый. Аднак у 2015–2016 гадах у камісію па заканадаўстве паступіла каля 3 тысяч зваротаў, якія тычацца правапрымяняльнай практыкі артыкула 328. Дэпутаты правялі маніторынг, і высветлілася, што пасля ўвядзення новых нормаў колькасць асуджаных «за наркотыкі» павялічылася ў 2,5 разы. Маніторынг паказаў, што суд пад збытам забароненых рэчываў разумеў не толькі «дзейнасць, звязаную з атрыманнем прыбытку», але і проста іх перадачу «з рук у рукі» падчас сумеснага ўжывання.

Прадстаўнікі дзяржорганаў, у тым ліку сілавых структур, якіх дэпутаты азнаёмілі з вынікамі маніторынгу, пагадзіліся, што ёсць «перагін у правапрымяняльнай практыцы».

Другое чытанне законапраекта аб карэкціроўцы артыкула 328 КК адбудзецца, верагодна, на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў 18 снежня.

**Паводле naviny.by**

# Беларускія бестселеры – 2018

**Лідарам па продажах беларускамоўнай літаратуры ў гандлёвай сетцы «Белкніга» стаў «Дзіцячы атлас Беларусі».**




За студзень-лістапад 2018 года кнігарні гэтай сеткі па ўсёй краіне прадалі 636 асобнікаў «Дзіцячага атласу Беларусі».

Другое месца ў рэйтынгу заняло выданне «Гэта Беларусь, дзетка!». Таксама вяршыню рэйтынгу займаюць раман «Ноч» Віктара Марціновіча, зборнік «Беларускія казкі» і «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча.

Агулам у рэйтынг трапілі чатыры кнігі Караткевіча: акрамя «Дзікага палявання», у яго трапілі «Каласы пад сярпом тваім», «Чорны замак Альшанскі» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Агулам у рэйтынг увайшлі 45 кніг. Сетка «Белкніга» мае больш за 100 кнігарняў па ўсёй краіне.

**Паводле euroradio.fm**

# Гледачы патрабуюць больш беларускіх фільмаў

**Больш за 40% беларусаў хочуць глядзець у кінатэатрах беларускія фільмы.**

Больш беларускага кіно ў пракаце хочуць бачыць людзі пераважна старэйшыя за 45 гадоў. Пра гэта сведчыць даследаванне «Інтэрнэт-беларусы і кіно: 2018», праведзенае Baltic Internet Policy Initiative у верасні 2018 года.

Рэспандэнтам задавалі пытанне: «Ці хацелі б вы бачыць больш беларускага кіно?». Аўтары даследавання найперш звяртаюць увагу на вялікі працэнт тых, каму «усё роўна ці складана сказаць». Гэта значыць, тых, хто адказаў «так», не нашмат больш: 40,9% vs 36,3%.

«Яшчэ цікавейшай становіцца сітуацыя, калі паглядзець на адказы на гэта пытанне з пункту гледжання гендарнай прыкметы. Больш за ўсё не могуць вызначыцца з адказам і выбіраюць варыянты «не ведаю» ці «ўсё роўна» жанчыны (41,8%). Пры аналізе ўзроставых характарыстык, адказалі: «Так, больш беларускага кіно ў пракаце» людзі пераважна старэйшыя за 45 гадоў. А вось сярод самай вялікай і актыўнай часткі беларускай інтэрнэт-аўдыторыі (25–34 гады) большасці — 43% — «усё роўна» ці «складана адказаць», — гаворыцца ў каментарыі да даследавання.

Большасць беларускіх гледачоў (48,6%) аддае перавагу дубляваным фільмам з поўнай заменай замежнай мовы на іншую мову. На другім месцы — фільмы на мове арыгіналу з рускімі субтытрамі. Іх выбралі 22,8% рэспандэнтаў. Фільмы з закадравым перакладам падабаюцца 12,9% апытаных. А кіно на мове арыгіналу з беларускімі субтытрамі хацелі б глядзець 7,7% гледачоў.

Аўтары даследавання мяркуюць, што такія чаканні ад беларускай культуры шмат у чым звязаныя з нязначным узроўнем фінансавання, не актуальнымі тэмамі новых фільмаў і іншымі прычынамі.

«З іншага боку, пракат у канцы лета фільм Дар'і Жук "Хрусталь", афіцыйна намінаванага ад Беларусі на прэмію "Оскар", паказвае, што беларускае кіно можа збіраць поўныя кіназалы», — адзначаюць аўтары працы.

Апытанне праводзілася ў інтэрнэце. У ім бралі ўдзел беларусы, якія цікавяцца кіно.

**Паводле thinktanks.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Свята надыходзіць?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Незаўважна прайшла палова снежня, і некаторыя ўжо пачынаюць падводзіць вынікі гэтага года і прагназаваць, што чакае нас у годзе наступным. Зрэшты, і без маштабных прагнозаў можна сказаць, што ён будзе даволі цяжкі для ўлады. І не толькі з-за «перадвыбарчай вакханаліі», пра якую казаў Аляксандр Рыгоравіч.**

Больш з-за таго, што на ўладу значна ўзмацніцца ціск. Расія ўжо не можа падтрымліваць Беларусь так, як яна гэта рабіла раней. А Лукашэнка на сустрэчы з Пуціным, запатрабаваўшы роўных з Расіяй цэнаў на газ, міжволі справакаваў адваротную рэакцыю.

Адной з горшых навінаў для ўрада стала тое, што віцэ-прэм'ер Расіі Дзмітрый Козак у аўторак на сустрэчы з дэлегацыяй з Беларусі не стаў абмяркоўваць кампенсацыю страт ад падатковага манеўру і прадастаўленне зніжкі на газ, паведаміла «Інтэрфаксу» ананімная крыніца, блізкая да перамоваў.

Паводле яе слоў, расійскі віцэ-прэм'ер не палічыў магчымым абмяркоўваць гэта «да прыняцця прынцыповых рашэнняў аб руху ў кірунку далейшай інтэграцыі Расіі і Беларусі ў межах Саюзнай дзяржавы».

Як паведаміў ананімус, сустрэча прайшла ў вузкім складзе, ад беларускай дэлегацыі ў ёй прынялі ўдзел віцэ-прэм'ер Ігар Ляшэнка, што курыруе ТЭК, і пасол Беларусі ў Расіі Уладзімір Сямашка.

Прэс-сакратар Козака Ілля Джус пацвердзіў факт сустрэчы, але каментаваць дэталі адмовіўся. Прадстаўнік прэс-службы Саўміна сказаў «Інтэрфаксу», што яны «не каментуюць ход перамоваў».

То бок, Расія ўзмацняе ціск на ўлады Беларусі. Праўда, невядома, з якою мэтай і навошта Расіі «далейшая інтэграцыя ў межах Саюзнай дзяржавы». Мы разумеем, як гэтую інтэграцыю бачыць Лукашэнка: эмісійны цэнтр расійскага Цэнтрабанку ў Мінску (права друкаваць тут расійскія рублі) і магчымасць беларускага правадыра балатавацца на прэзідэнта ў Расіі. А вось як тую інтэграцыю бачыць Расія? Што ёй з той «Саюзнай дзяржавы»?

Напэўна, пасля перамоў Лукашэнкі і Пуціна 6 снежня пазіцыя Расіі адносна новых праблемаў з Сінявокай яшчэ проста не вызначана. І словы Козака пра «Саюзную дзяржаву» — проста спроба ўхіліцца ад непрыемных пытанняў з беларускага боку. Да таго часу, калі аналітыкі Пуціна не раскладуць па палічках расійскаму гаранту, што можна чакаць ад непрадказальнага беларускага кіраўніка.

Спадару Лукашэнку ў бліжэйшыя дні прыйдзецца таксама несаладка. Зазвычай перад Новым годам ён склікаў сваіх чыноўнікаў і даваў наказы, каб беларусы адзначылі святы «годна», патрабаваў сачыць за цэнаўтварэннем, і нават уводзіў мараторыі на ўзняцце коштаў у святочныя дні. Не ведаю, ці чытае ён інтэрнэт-газету БелаПАН Naviny.by. Можа быць, бо аднойчы назваў БелаПАН «не самым горшым у нас інфармацыйным агенцтвам». Аднак зараз яго, напэўна, зацікавіла б інфармацыя гэтага выдання пра тое, што гандлёвыя сеткі не плануюць павышаць цэны перад навагоднімі святамі. Наадварот, крамы прапануюць зніжкі на некаторыя тавары.

Пра гэта выданню распавяла сустаршыня Асацыяцыі рознічных сетак Наталля Шаблінская. «Кошты ўсё зафіксаваныя. Ніякіх зменаў коштаў у большы бок не плануецца. Ніхто не плануе ніякіх высокіх гандлёвых нацэнак. Ніхто зарабляць не будзе. Будзем дарыць свята. Гэта філасофія рытэйла на бліжэйшы час», — заявіла Шаблінская. Больш за тое, у перадсвяточныя дні ў гандлёвых сетках запланавана «мора акцый». Некаторыя тавары будуць прадавацца з вялікімі зніжкамі — і 30%, і 40%.

Напрыклад, у сетцы «Суседзі» асноўная актыўнасць стартуе з 19 снежня. На зніжках будзе каля дзвюх тысяч тавараў: садавіна, гародніна, дэсерты цукерачнай, чайнай, кававай катэгорыі, а таксама нехарчовыя тавары. Да прыкладу, мужчынскія і жаночыя наборы касметыкі. У сетцы «Віталюр» навагодняя акцыя пачынаецца з 13 снежня. У крамах можна будзе знайсці больш за 300 цэнавых прапаноў.

«З года на год рытэйлеры змагаюцца за пакупніка ўсімі сіламі, а фантазія маркетолагаў не ведае межаў», — адзначыла Наталля Шаблінская. І запэўніла, што праблем з недахопам тавараў у крамах не будзе: таварныя запасы вялікія.

Галоўнае, «жартуе яна, каб у пакупнікоў хапіла грошай, бо ў апошні час іх асабліва не дадалося», пішуць Naviny.by.

Я ж мяркую, што гэта не было жартам, а вельмі іранічнай канстатацыяй факту. І пра гэта сведчыць «Індэкс свабоды чалавека 2018», які складаюць даследчыя цэнтры The Cato Institute і Friedrich Naumann — Stiftung für die Freiheit да дня правоў чалавека. Беларусь у гэтым рэйтынгу займае 128-е месца з 162 магчымых, саступіўшы 42 пункты нават Расіі. З краін-суседзяў Латвія апынулася на 20-м радку, Польшча — на 39-м, Украіна — на 118-м, а Расія — на 120-м. Пры складанні спісу ўлічваліся паказчыкі асабістай і эканамічнай свабоды ў сферах захавання законнасці, аховы і бяспекі, трафіку, рэлігіі, асацыяцый і сходаў, распаўсюду інфармацыі, працы і бізнесу і іншага.

Заўважым: паказчыкі былі не толькі агульнадэмакратычных свабод, але і свабод эканамічных. Толькі з гэтага рэйтынгу мы можам пабачыць наўпрамую залежнасць паміж эканамічным дабрабытам і дэмакратыяй. Самымі свабоднымі краінамі прызнаныя Новая Зеландыя, Швейцарыя, Аўстрыя і Канада, самымі несвабоднымі — Лівія, Ірак, Емен, Венесуэла. Замыкае рэйтынг Сірыя.

Добрую статыстыку выдаў Дзяржаўны памежны камітэт: беларускі «бязвіз» апынуўся ўдалай ідэяй. За дзевяць месяцаў года Беларусь наведала 3,62 мільёна замежных грамадзянаў. За ўвесь 2017 год замежных турыстаў было 3,33 мільёна чалавек.

Паводле дадзеных на 29 лістапада, з 2017 года ў Беларусь па бязвізавым рэжыме праз Нацыянальны аэрапорт Мінск уехала амаль 180 тысяч чалавек з 70 краін. Часцей за ўсё бязвізавым парадкам уезду карысталіся грамадзяне Германіі, Польшчы, Італіі, Брытаніі і ЗША. Не самыя бедныя краіны, дарэчы.

Экспарт турыстычных паслуг у Беларусі за студзень-верасень гэтага года склаў амаль 171 мільён долараў, што больш на 14,3%, чым годам раней, а сальда знешняга гандлю турыстычнымі паслугамі — 117 мільёнаў долараў.

А тым часам у Гомелі на цэнтральнай плошчы ўключылі першую ў Беларусі піксельную навагоднюю ёлку. На ёлцы ўтварыцца адзіны светлавы экран, на якім паказваюцца светлавыя кампазіцыі, і запушчаны зваротны адлік да 2019 года...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ірына Леўшына

**Галоўная рэдактарка БелаПАН стала «журналістам года» па версіі праваабаронцаў.**

10 снежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека, беларускія праваабарончыя арганізацыі назвалі лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі 2018 года за дасягненні ў сферы правоў чалавека.

Ірына Леўшына была ў ліку 15 журналістаў, якія падпалі пад крымінальны пераслед у рамках «справы БелТА». Заснавальнікі прэміі адзначылі, што яна «ўвесь час прыкладае намаганні, каб тэма правоў чалавека не знікала з інфармацыйнага поля ў Беларусі».

Леўшына падзякавала ўсім, хто яе намінаваў, а таксама калегам і праваабаронцам, якія выказвалі салідарнасць з фігурантамі «справы БелТА», па якой яна праходзіла ў якасці абвінавачанай. «Дзякуючы вашай падтрымцы большасці атрымалася пазбегнуць крымінальнага пераследу, але цяпер усю падтрымку трэба накіраваць на Марыну Золатаву, якую хочуць давесці да суда. Гэта судзілішча будзе ганьбай для дзяржавы», — падкрэсліла яна.

Леўшына адзначыла заявіла, што лічыць узнагароду не толькі сваёй, але і ўсіх журналістаў, якія падпалі пад крымінальны пераслед у рамках «справы БелТА» і запэўніла, што праваабарончая тэматыка «заўсёды будзе ў цэнтры ўвагі БелаПАН».



## Ганна Красуліна

**Грамадзянка Расіі, прэс-сакратарка Аб'яднанай грамадзянскай партыі ўжо 18 снежня можа быць дэпартаваная з Беларусі. Прынамсі, на гэты дзень прызначаны судовы разгляд яе скаргі на рашэнне міліцыі аб яе высылцы.**

Суд прызначаны на 16 гадзін. Скаргу разгледзіць суд Маскоўскага раёна Мінска.

Красуліна жыве ў Беларусі з 2002 года. У яе расійскае грамадзянства, але муж і дзеці — беларусы. Прэс-сакратаркай АГП Красуліна стала ў 2011 годзе. У сярэдзіне лістапада гэтага года ёй паведамілі, што яна абавязаная пакінуць Беларусь да 30 лістапада тэрмінам на 1 год. Прычынай назвалі тры адміністрацыйныя правапарушэнні: два з іх — удзел у «несанкцыянаваных масавых акцыях», яшчэ адно — штраф за неаплачаны праезд у аўтобусе. Красуліну высылаюць «у інтарэсах грамадскага парадку».

Сталічная міліцыя разгледзела скаргу Ганны Красулінай і пакінула ў сіле рашэнне пра высылку. Тады яна звярнулася ў суд, і да прыняцця ім рашэння з Беларусі яе не вышлюць.



## Юрый Чыж

**Падобна, што чуткі, нібы футбольны клуб «Дынама—Мінск» зменіць уладальніка, маюць пад сабою глебу. Сённяшні ўладальнік мінскага «Дынама» страціў да яго цікавасць.**

Юрый Чыж прызнаўся «Прессболу», што не валодае інфармацыяй пра новага гаспадара клуба. «Я сам не ведаю, і мяне гэта абсалютна не хвалюе. Нічога не каментую. Калі ўсё адбудзецца, таксама не да мяне пытанне. Ёсць кіраўніцтва федэрацыі футбола, Міністэрства спорту. Тэлефануйце туды», — сказаў Чыж.

У футбольных кулуарах яшчэ з канца лета актыўна пляткарылі пра тое, што футбольны клуб «Дынама—Мінск» выйдзе з-пад патранажу Юрыя Чыжа, які быў уладальнікам гэтага праекта 19 гадоў.

Апошнім часам Чыж перастаў наведваць матчы сваёй каманды і пасяджэнні выканкаму федэрацыі футбола. Не было яго і сярод гасцей нядаўняга «Зорнага мяча», дзе ўшаноўвалі лаўрэатаў мінулага сезона.

Некалькі крыніц запэўнілі TUT.BY, што новым уладальнікам «Дынама» стане расійскі бізнесовец Міхаіл Гуцырыеў. Адна з крыніц паведаміла, што Гуцырыеў плануе аддаць клуб свайму партнёру, IT-прадпрымальніку Віктару Пракапеню. Пытанне новага ўладальніка «Дынама» можа канчаткова вырашыцца ў панядзелак, 17 снежня.

Юрый Чыж стаў уладальнікам мінскага «Дынама» ў канцы 1999 года. За мінулы час «бела-блакітныя» выйгравалі чэмпіянат Беларусі толькі ў 2004 годзе, 8 разоў займалі другое месца, 5 разоў — трэцяе. Бізнесовец вызначыўся тым, што за гэты час памяняў больш за 30 трэнераў.

Азбука паліталогії



Сяргей НІКАЛЮК

# «Ручное кіраванне» як прыклад інстытута, які эфектыўна працуе

**Калі глядзець на Беларусь з Афрыкі, яе лёгка прыняць за еўрапейскую дзяржаву, якая дынамічна развіваецца.**

«Не вер напісанаму, асабліва напісанаму на плоце». Так казалі ў гады маёй студэнцкай маладосці, калі адзінай альтэрнатыўнай крыніцай інфармацыі былі «галасы», якія прабіваліся праз глушылкі. У стагоддзе інтэрнэту праблем з альтэрнатыўнай інфармацыяй няма. Было б жаданне.

Паводле дадзеных Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры адміністрацыі адзінага палітыка (АП), працэнт рэспандэнтаў, якія атрымліваюць неабходную інфармацыю пра жыццё ў Беларусі і за мяжой з інтэрнэту, пастаянна расце (глядзі табліцу). Прароцтва героя культавага савецкага фільма «Масква слязам не верыць» наконт аднаго суцэльнага тэлебачання ў будучыні сёння не здаецца такім пераканаўчым. Калі што і будзе суцэльным у сяраднетэрміновай перспектыве, дык гэта «сусветнае павуціне», якое АП неаднаразова характарызаваў як «памыйніцу».

Што да візуальнай агітацыі, дык у стагоддзе інтэрнэту яна сваёй актуальнасці не страціла. Толькі на змену надпісам на платах прыйшлі білборды. Але гэта змена хутчэй тычыцца формы, чым зместу. Палітыкі, нават калі іх колькасць не большая за аднаго, па-ранейшаму нешта абяцаюць, аднак часам на практыцы рэалізуюць тое, што моцна адрозніваецца ад задэклараванага.

Аддзяленне мух (дэкларацый) ад катлет (рэальных спраў) — задача тых, хто прэтэндуе на статус аналітыкаў. Глыбіня аналізу — пытанне асобнае. Тут ужо хто на што вучыўся і на што здольны.

## Драйвер у паўтара мільярды долараў

У сакавіку 2002 года на семінары кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў АП сфармуляваў пяць характэрных асаблівасцяў «беларускай мадэлі» (БМ):

- моцная і эфектыўная дзяржаўная ўлада;
- развіццё прыватнага сектара побач з дзяржаўным, але не на шкоду нацыянальным інтарэсам;
- прыватызацыя — не самамэта, а сродак знайсці зацікаўленага інвестара, стварыць эфектыўнага ўласніка;
- інтэграцыйныя працэсы з краінамі СНД, у першую чаргу з Расіяй;
- моцная сацыяльная палітыка дзяржавы.

Такі афіцыйна задэкларaваны пералік асаблівасцяў «беларускай мадэлі». Безумоўна, ён няпоўны, дый тое, што ў яго ўключана, не выглядае пераканаўча. Напрыклад, паводле якіх крытэраў ацэньваць эфектыўнасць дзяржаўнай улады? Паводле яе нязменнасці або паводле здольнасці забяспечваць эканамічны рост? Калі па першым крытэры — то яна, безумоўна, эфектыўная. Калі па другім — на жаль, не вельмі.

Колькі людзей, стольки і меркаванняў. Таму, не аспрэчваючы афіцыйны пералік асаблівасцяў БМ, я дапоўню яго сваімі асаблівасцямі, сярод якіх — ручное кіраванне. Балазе для гэтага ёсць добрая нагода.

У інтэрв'ю тэлеканалу «Расія 24», адказваючы на пытанне, што найперш з'яўляецца драйверам для беларускай эканомікі, АП, у прыватнасці, назваў Парк высокіх тэхналогій, «які ў гэтым годзе прынясе нам толькі па экспарту каля паўтара мільярды долараў».

Драйвер гэты адкрыўся не ўчора. Рашэнне пра яго фармаванне было прынятае больш за 10 гадоў таму. Вось як гэты працэс апісаў сам АП: «Я сабраў іх (кіраўнікоў IT-кампаній) і пытаюся: ну вы ж разумныя ўсе, чаго вы плачаце, з чым вы прыйшлі? Глядзіць на мяне. Вось я вам, кажу, даю тэрмін паўгода, напішыце ўсё, што вы хочаце, што вам сёння перашкаджае працаваць у Беларусі. Так, мы прасунутыя і іншае. Час прайшоў, у штосьці ўпёрліся, нешта перашкаджае. Ну скажыце. Я не настолькі прасунуты. Я ж, кажу, і да кампутара не падыходжу, ёсць у мяне каму працаваць з гэтым кампутарам. Добра, згодныя».

Тут самы час разабрацца з тэрмінамі. Найбольш даходлівае тлумачэнне я знайшоў у расійскага сацыёлага Рыгора Сатарава: «Ручное кіраванне — аналаг рытуалу лячэння кепскіх хваробаў праз дотык рукі манарха». На думку сацыёлага, аналаг гэты з'явіўся ў канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзя ў эпоху фарміравання цэнтралізаваных манархій, калі памазаннікі Божыя канчаткова аддаліліся ад падданых і адасобіліся ў новых гіганцкіх палацах, акружаных тысячамі слуг.




На практыцы ручное кіраванне — гэта замыканне сістэмы прыняцця рашэнняў на першую асобу дзяржавы і яе адміністрацыю, галоўным вынікам чаго становіцца страта выканаўцамі пачуцця адказнасці. Усё сапраўды так. Усё ў поўнай адпаведнасці з афарызмам Энтані дэ Ясаі, аднаго з самых арыгінальных палітычных філосафаў сучаснай Еўропы: «Пертварэнню кіраваных у некіраваных спрыяе кіраванне імі».

З усіх магчымых сцэнараў развіцця застаецца толькі інерцыйны. Заклікамі варушыцца сітуацыю не выправіць. Надзеі на іншыя сцэнары — марнаванне часу. Мэты любых рэформаў, нават калі яны і будуць абвешчаныя, у працэсе іх рэалізацыі змяняюцца да непазнавальнасці, і сістэма, што рэфармуецца, у канчатковым выніку можа апынуцца ў той жа кропцы, у якой яна і знаходзілася да пачатку пераўтварэнняў.

## Каза з чалавечым генам

Лакальныя поспехі за кошт канцэнтрацыі рэсурсаў пры гэтым не выключаныя. СССР, напрыклад, на працягу шэрагу гадоў быў лідарам у асваенні космасу. Без ідэалагічнага кампанету тут не абышлося, але яго не варта перабольшваць. Адсутнасць сродкаў дастаўкі ядзерных боегаловак да жыццёвых цэнтраў стратэгічнага праціўніка рабіла бессэнсоўнымі поспехі Курчатава і яго каманды. Таму прарыў у галіне ракетабудавання кіраўніцтва КПСС стала разглядаць у якасці галоўнай умовы свайго выжывання.

Беларускім навукоўцам з Інстытута мікрабіялогіі яшчэ толькі ў будучыні давядзецца прадэманстраваць свой уклад у падтрыманне стабільнасці БМ. Але першы крок у патрэбным кірунку ўжо зроблены. Іх лабіст, расійскі тэлевядоўца Сяргей Брылёў, здолеў данесці да АП інфармацыю аб паспяховым ужыўленні чалавечага гена ў казу. Калі навукоўцы на гэтым не спыняцца, дык, глядзіш, яшчэ пры жыцці маіх аднагодкаў праблема дэмаграфічнай бяспекі будзе знятая з парадку дня.

Вопыт кіраўнікоў IT-кампаній падказвае далейшы алгарытм дзеянняў. Галоўнае — сабрацца, дакладней, быць сабранымі ў патрэбным кабінеце, і данесці да яго гаспадара падрабязны пералік перашкодаў, якія стаяць на шляху да канчатковага поспеху. Звяртацца ў іншыя кабінеты (урадавыя, парламенцкія) асаблівага сэнсу не мае.

Урад, згодна з артыкулам 106 Канстытуцыі, — «цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання». Але калі пагадзіцца з версіяй АП, роля ўрада ў праекце, які прыносіць сёння паўтара мільярды долараў экспартнай выручкі, была нулявой. Ад праекта ён самаўхіліўся, як ухіляецца і ад усіх іншых стратэгічных і тактычных пытанняў.

Прыказка «не царская гэта справа» ў нас не працуе, бо нядарскіх справаў у нас няма і быць не можа. Ці ідзе гаворка пра тэхналогіі вырошчвання, ці пра аптымальны час сяўбы і ўбокі лёну, ці абмяркоўваюцца канструктыўныя асаблівасці сіласна-сянажных траншэй — апошняе слова заўсёды за АП. І нешта я не ўзгадаю, каб хоць раз хто-небудзь са спецыялістаў запярэчыў.

## З апорай на патэнцыял СССР

Ці магчыма будаўніцтва IT-краіны пад кіраўніцтвам бюракраты? Індустрыялізацыя з яе цяжкім машынабудаваннем у СССР апынулася магчымай. Гэта была першая ў сусветнай гісторыі небуржуазная індустрыялізацыя. За яе давялося заплаціць мільёнамі жыццяў.

Спрабаваў СССР зрабіць і наступны крок. Яго вынік мы сёння назіраем у выглядзе пустых карпусоў прадпрыемстваў электроннай і прыборабудаўнічай прамысловасці. Ні адно з іх не вытрымала канкурэнцыі пасля падзення «жалезнай заслоны».

«Ручное кіраванне механічнымі муляжамі». Так расійскі эканаміст Аляксандр Аузан ахарактарызаваў спробы бюракраты асвоіць дасягненні чацвёртай прамысловай рэвалюцыі. І гэта нягледзячы на інтэрнэт і сотавую сувязь, поспех укаранення якіх быў забяспечаны сіламі заходніх фірмаў. Прыгадаем сумны лёс дзяржаўнага сотавага аператара «БеСТ». Усё, чаго ён здолеў дамагчыся на рынку, — гэта 2,5% кліентаў, і таму быў прададзены турэцкай тэлекамунікацыйнай кампаніі Turkcell.

Зразумела, на песімізм аўтара «Азбука паліталогіі» АП ёсць што адказаць. Абмяжуюся адным абзацам з выступу перад дэпутатамі парламента Рэспублікі Судан 17 студзеня 2017 года: «Сёння Беларусь — еўрапейская дзяржава, што дынамічна развіваецца. У сваім станаўленні мы зрабілі стаўку на найбагацейшы патэнцыял, назапашаны ў часы СССР. Створана нацыянальная мадэль дзяржаўнага ладу, якая максімальна адпавядае патрэбам беларускага народа. Яна мае інстытуты, якія эфектыўна функцыянуюць, аптымальную эканамічную сістэму і высокі ўзровень сацыяльнай абароны насельніцтва».

Інстытут «ручнога кіравання» ў спісе эфектыўна працуючых інстытутаў займае годнае месца. Упэўнены, што ў дэпутатаў парламента Судана сумневаў з гэтай нагоды не ўзнікла.

**З ЯКІХ КРЫНІЦ ВЫ ЗВЫЧАЙНА АТРЫМЛІВАЕЦЕ НЕАБХОДНУЮ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА ЖЫЦЦЁ Ў БЕЛАРУСІ І ЗА МЯЖОЙ?**
(у працэнтах ад колькасці апытаных)

| Год | 2009 | 2012 | 2016 |
|---|---|---|---|
| Тэлебачанне | 91,0 | 86,1 | 85,7 |
| Інтэрнэт | 24,2 | 41,9 | 56,5 |
| Друкаваныя СМІ | 62,9 | 42,7 | 43,4 |
| Радыё | 42,4 | 30,7 | 28,5 |

# Вайна супраць памерлых гартуе грамадства для вырашальнай бітвы за жывых

Дзяніс ІВАШЫН

**Мы пачынаем цыкл інтэрв'ю з удзельнікамі Варты абароны Курапатаў. Дзеля таго, каб захаваць для беларускай гістарычнай памяці непасрэдныя сведчанні, думкі, меркаванні і ўражанні ўдзельнікаў Варты. Першая размова з палітыкам, пісьменнікам і публіцыстам, адным з заснавальнікаў «Маладога фронту» і лідарам «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» Паўлам Севярынцам.**




Фота www.nn.by

***— Павел, якое значэнне Народны мемарыял Курапаты мае для вас асабіста, і якое, на ваш погляд, для беларускага народу?***

— Курапаты — гэта беларускі нацыянальны некропаль. У кожнай краіне ёсць магілкі, на якіх хаваюць самых выбітных грамадзянаў, народных герояў, геніяў, святых. Арлінгтон у ЗША, Пэр-Лашэз у Францыі, Яд ва-Шэм у Ізраілі. Там можна хадзіць днямі і разглядаць помнікі з датамі, шыльдамі, абліччамі, надпісамі, скульптурамі. А вось у Беларусі нацыянальны некропаль такі — безымянныя брацкія магілы і крыжы. Месца масавага забойства невінаватых.

Таму курапацкі крыж — гэта сістэма каардынатаў беларускай нацыянальнай ідэі. Пакаянне. Ахвярнасць. Вера. Памяць. Курапаты вось ужо трыццаць гадоў — крыніца беларускага руху. БНФ, «Малады фронт», цэлыя пакаленні ў плане свядомасці нараджаюцца ў хвалях абароны Курапатаў — бо мы бачым бясконцыя спробы забіць народную памяць.

***— Варта трывае амаль сем месяцаў, і зараз ёсць падставы меркаваць, што яна стане самай працяглай грамадскай кампаніяй абароны за ўвесь 30-гадовы летапіс Народнага Мемарыялу. Ці ёсць нейкія вынікі?***

— Сёлетняя варта — чацвёртая хваля руху вакол Курапатаў, следам за 1988, 2001–2002 і 2017-м. Людзі ўжо сёмы месяц штодня выходзяць з бел-чырвона-белымі сцягамі да брамы рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу, пабудаванага ў ахоўнай зоне мемарыяла насуперак закону і абурэнню грамадства, стаяць па 8–12 гадзінаў у любое надвор'е, даюць наведнікам буклеты, фіксуюць машыны і складаюць адкрытую базу звестак. На гэты момант агульная колькасць удзельнікаў Варты перавысіла 500 чалавек. Вынікам Варты стаў народны байкот «Бульбаш-холу» — штодня там бывае хіба з дзясятак наведнікаў. Адносна рэстарацыі склаўся практычна поўны нацыянальны кансенсус: гэта ганьба.

Вялікая інфармацыйная хваля па Курапатах падштурхнула да пошуку і ўшанавання іншых месцаў сталінскага тэрору па ўсёй Беларусі: Хайсы пад Віцебскам, Кабыляцкая гара ля Воршы, Шчакатоўскі лес пад Гомелем, Лошыца ў Мінску ды іншых. Тут з'ядналіся сябры практычна ўсіх дэмакратычных рухаў і партый — і тыя, хто не належыць да апазіцыі.

Немалаважны вынік Варты — змены і ў саміх Курапатах. Мы памятаем, што пасля Варты 2001–2002 гадоў Курапаты атрымалі афіцыйны статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі, былі зроблены тунелі пад Мінскай кальцавой, пачаліся рэгулярныя талокі і сіламі КХП-БНФ ды неабыякавых грамадзянаў пачаў ствараць народны мемарыял крыжоў. Падчас гэтай Варты з ініцыятывы Змітра Дашкевіча былі ўсталяваныя вялікія, бачныя здалёк, крыжы па перыметры Курапатаў, стала традыцыяй «Ноч расстраляных паэтаў», улады добраўпарадкавалі дарогу праз Курапаты і нарэшце паставілі памятны знак з шыльдай «Ахвярам палітычных рэпрэсіяў 1930–1940 гадоў». Усяго гэтага не было б, калі б не было Варты. Праўда, знак паставілі без узгаднення з грамадскасцю, архівы НКУС не адкрылі, рэстарацыю не зачынілі. Спрабуюць на тэме Курапатаў «паставіць кропку». Але кропкі няма — толькі безліч пытальнікаў. Вось чаму Варта стаіць дагэтуль.

***— Актывісты Варты зазналі на гэты момант 115 сутак арышту, 30 з якіх былі прысуджаныя менавіта вам. Агулам больш за 23000 рублёў штрафаў. Ці гэта дзеянне выкшталцаванай машыны рэпрэсіяў, ці ўсё ж нешта кардынальна іншае?***

— Думаю, рэжым разлічваў запалохаць удзельнікаў Варты штрафамі ды «суткамі» і прымусіць іх сысці з Курапатаў. Тут праглядаецца агульная машына ціску, але са сваімі асаблівасцямі. Паколькі народ супраць кабака ў Курапатах, а еўрапейцы не хацелі б бачыць маштабных рэпрэсіяў на месцы масавых расстрэлаў, міліцыя мусіць хаця б дзеля выгляду стрымлівацца. Застаецца адкрытым пытанне ўплыву на рашэнні ўладнай вярхушкі расійскіх спецслужб. Калі «Бульбаш-хол» — іх праект, то відавочна, што тут праекцыя маскоўскіх гібрыдных метадаў.

***— Улада адной рукой спрабуе ўшанаваць памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, другой спрыяе дыскрэдытацыі і дэсакралізацыі Народнага Мемарыялу праз легалізацыю дзейнасці рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем, поедим». На вашае меркаванне, які ў гэтым сэнс?***

— Мы за 25 гадоў выдатна вывучылі цынічны мазаічны метад: калі ставіцца помнік ахвярам у Курапатах, тут жа пачынаецца рамонт помніку Калініну, які тыя расстрэльныя спісы падпісваў. Каб было чым «супакоіць» Маскву і нашчадкаў тых, хто страляў. Робіш добрую справу — і тут жа бяжыш улагоджваць д'ябла, каб ён не пакрыўдзіўся. Ды хто яны такія, тыя людзі, што важаць баланс паміж дабром і злом?! Паслухайце правіцеля: зараз ён адным сказам пасылае ўзаемавыключальныя сігналы Расіі, Еўропе, Кітаю — а сам робіць толькі тое, што ўмацоўвае яго асабістую ўладу. Усім нахлусіць — гэта і ёсць яго праўда. Такія рухі — паршывы гандаль на тэме памяці, нявінна пралітай крыві, палітычнага пераследу, які кепска скончыцца для самога гандляра.

***— Якія крокі павінна зрабіць дзяржава дзеля рэальнага ўшанавання памяці забітых у выніку сталінскіх рэпрэсіяў?***

— Першае — адкрыць архівы НКУС. У мільёнаў забітых — мільёны сваякоў, якія не ведаюць, дзе загінулі іх дзяды. Пакуль не будзе пакаяння за злачынствы камуністычнай сістэмы — у Беларусі не будзе будучыні. Гэта духоўныя законы, і яны дзейнічаюць гэтак жа няўмольна, як і фізічныя. Другое — правесці дэкамунізацыю: ад назваў вуліц да помнікаў і падручнікаў. Нельга жыць па-еўрапейску на вуліцы Леніна, Калініна, Валадарскага ці Войкава, гэта не сумяшчальна. Трэцяе — ушанаваць памяць забітых у сотнях месцаў расстрэлаў па ўсёй Беларусі. А ў Курапатах — на полі, па якім везлі асуджаных на расстрэл, — паводле прапановы Зянона Пазьняка, варта паставіць сцяну з імёнамі і адчыніць музей ахвяраў камуністычных рэпрэсій.

***— У Расіі зараз актыўна адраджаецца культ Сталіна, ужо некалькі гадоў запар знішчаюць архіўныя карткі рэпрэсаваных, што прайшлі праз ГУЛАГ. Ці ёсць гэта і спроба дэсакралізаваць Курапаты звёнамі аднаго ланцугу? Ці не намагаецца Расія занурыць Беларусь у сваю ментальную прастору?***

— Вельмі падобна, што Беларусь па-ранейшаму выконвае ролю палігона для выпрабавання метадаў аднаўлення імперыі ў самой Расіі. І, безумоўна, Беларусь — ключавая кропка для крамлёўскай ментальнасці: за апошнія сто з невялікім гадоў лёс Расійскай імперыі ўжо некалькі разоў вырашаўся менавіта тут. Тысячы «байцоў нябачнага фронту», ад супрацоўнікаў спецслужбаў да інтэрнэт-троляў, працуюць над тым, каб пераканаць беларусаў: вы не народ, вы толькі частка імперыі, у вас няма мовы, у вас няма веры, у вас няма годнасці, ну а вашы забітыя продкі — гэта проста трэскі, якія разлятаюцца, калі вялікія дзядзі валяць лес.

Не атрымаецца. Перамагчы народ немагчыма.

***— Акрэсліце тры галоўныя станоўчыя дасягненні бягучай Курапацкай Варты.***

— Па-першае, народны байкот «Бульбаш-хола». Большасць нашых грамадзян прайшла тэст нумар адзін на нацыянальную сталасць: балявацць, піць і танчыць у месцы, дзе забівалі іх продкаў, яны адмаўляюцца. Едуць туды толькі маральныя вылюдкі і чужыя без сумлення, іх адзінкі.

Па-другое, інфармацыйны розгалас і асвета. За шэсць месяцаў колькасць публікацый пра Курапаты вымяраецца ў тысячах, ахоп — у сотнях тысячаў чытачоў, гледачоў і слухачоў. Думаю, Госпад дапусціў гэтую сітуацыю з «Бульбаш-холам» якраз да трыццацігоддзя адкрыцця Курапатаў дзеля таго, каб беларусы яшчэ раз згадалі страшную праўду пра масавыя забойствы. Зараз, калі еду 53-м тралейбусам на Варту, людзі ціснуць рукі і кажуць: «А я кніжку пра Курапаты прачытаў». «А я схадзіў». «А знаеце, мы былі чорнымі капальнікамі, і ў 1980-я ў Курапатах дзіцячыя боцікі адкапалі...». І зноў падымаецца хваля праўды пра бясконцыя беларускія Галгофы: Паляі, Трасцянец, Парк Чалюскінцаў, Лошыцу... Дзякуй журналістам, навукоўцам, аўтарам расследаванняў! Без памяці, без пакаяння няма адраджэння. Такога розгаласу не было б, калі не было б Курапацкай Варты.

Па-трэцяе — людзі, якія ўдзельнічаюць у абароне. За шэсць месяцаў абароны толькі ў БХД з'явілася некалькі новых сябраў — і якіх! Гатовых у спёку і сцюжу стаяць са сцягам, каб абараніць памяць і годнасць, гатовых ісці і пад пратаколы, і пад арышты. Фактычна ў Курапатах, дзякуючы Дзянісу Урбановічу, аднавіўся «Малады фронт». Удзячны Богу, што зараз у Курапатах стаіць сапраўдная каманда байцоў, здольных абараняць сваю краіну. Ганаруся, што раблю адну справу з такімі людзьмі.

Акрамя таго Курапаты сталі тэстам і для прайдзісветаў, гатовых прадаць годнасць і памяць. Курапаты выявілі слабасці дзеючых апазіцыйных структур — часам тая ці іншая партыя альбо арганізацыя, публічна прымаючы рашэнне ўдзельнічаць у Варце, не магла знайсці і двух-трох чалавек на тыдзень на змену абаронцам, і праз колькі тыдняў сыходзіла наогул. І проста паскуднае, іншага слова не падбярэш, стаўленне дзяржаўных органаў перад абліччам відавочных злачынстваў. Робіць выгляд, што не бачаць здзекаў, хабараў, наездаў на абаронцаў машынамі. Улетку на Курапаты прыязджаў штрафаваць абаронцаў адзін маёр — аказалася, яго сваяку стаіць крыж на Галгофе! Што ж вы робіце, тут жа і вашы продкі расстраляныя?!

***— Дзейны чын Варты абароны Курапатаў, грамадская кампанія абароны Вайсковых могілак, пратэстны рух супраць будаўніцтва акумулятарнага заводу ў Брэсце, іншыя ініцыятывы. Ці працягвае, нягледзячы на рэпрэсіі, кшталтавацца грамадзянская супольнасць Беларусі?***

— Так, насамрэч, вайна рэжыму супраць памерлых, якая разгарнулася ў гэтым годзе ў Беларусі, гартуе грамадства для вырашальнай бітвы за жывых. Курапаты, Вайсковыя, Лошыца, Хайсы, Брэст, Светлагорск — кропкі кіпення, з якіх пачынаецца новая хваля абуджэння Беларусі.

Вялікі, ад сэрца, дзякуй усім неабыякавым, хто хоча, каб іх краіна была лепшай! Людзі, дарагія — калі не мы, то хто?

***— Што трэба рабіць, каб перамаглі абаронцы Курапат, а разам з імі і Беларусь?***

— Трэба прыходзіць на Варту — штодня ўсім, хто можа.

Мы раздаём буклеты супрацоўнікам рэстарана і наведнікам, тлумачым, чаму нельга балявацць у Курапатах. Многія ставяцца з разуменнем і з'язджаюць. Некаторыя пастаўшчыкі адмаўляюцца прывозіць прадукты ў «Бульбаш-хол». У будні ў рэстарацыі па некалькі наведнікаў у дзень, у выходныя — па пары дзясяткаў. Як бізнес-праект рэстаран прагарае.

Мы працуем праз сецiва, каб абудзіць беларусаў да пошуку месцаў расстрэлаў і ўшанавання памяці забітых. Каб весці народную дэкамунізацыю. Станавіцеся побач!

***— Вы маеце магчымасць звярнуцца да чытачоў «Новага Часу»...***

— Дарагія людзі! Прах Курапатаў грукае ў сэрца кожнага, хто жыве на гэтай зямлі. Мы лічым, што дарагі кабак з бутэлькамі гарэлкі ў выглядзе куляў ды пісталетаў, батуты, інтымныя дамкі, феерверкі, святочныя карагоды і вяселлі ў ахоўнай зоне Нацыянальнага некропалю Курапаты, за пяцьдзясят метраў ад магілаў расстраляных, з відам на крыжы — гэта плявок у твар кожнаму беларусу.

Падтрымлівайце ініцыятывы памяці, пакаяння, выкрыцця злачынстваў камунізму. Падыходзьце хаця б на пару гадзінаў у Курапаты. Падтрымаць. Пабыць. Памаліцца. Гэта цудоўная магчымасць простай салідарнасці.

Далучайцеся — кожны дзень з 12.00 і да позняга вечара!

Калі мы разам будзем выходзіць да брамы «Бульбаш-холу», калі нас будуць дзясяткі і сотні штодня, калі ўлады будуць адчуваць сталы ціск тысячаў праз СМІ і сацсеткі, звароты і кампаніі, яны доўга не вытрымаюць. Курапаты пакінуць у спакоі. Архівы будуць адкрытыя. Вуліцы Леніна і лініі Сталіна знікнуць з Беларусі.

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

# «Амерыканскія горкі»

**У пачатку 1990-х гадоў побач з лідарам БНФ і парламенцкай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га склікання Зянонам Пазьняком часта можна было пабачыць высокага маладога чалавека з акуратна падстрыжанымі вусікамі і бародкай. Дзе б ён ні быў — у Авальнай залі альбо на вулічных мітынгах — апранаўся заўсёды стылёва і выглядаў як важны чыноўнік ці дырэктар.**



Фота www.vytoki.net

Неўзабаве чытачы і пастаянныя гледачы і слухачы пасяджэнняў сесій ВС сталі пазнаваць Яўгена Віктаравіча Новікава, народнага дэпутата, які ва ўсіх сваіх выступах адносіў сябе да апазіцыі БНФ.

Яўген Новікаў нарадзіўся ў 1956 годзе ў Крычаве. Адукацыю атрымаў у Мінску, скончыў Медыцынскі інстытут і юрыдычны факультэт БДУ. Паводле афіцыйнай біяграфіі, Новікаў з 1980 года стала працаваў доктарам у 4-й сталічнай клінічнай бальніцы.

### У Вярхоўным Савеце

Калі ў сакавіку 1990 года надышлі выбары ў Вярхоўны Савет БССР 12-га склікання, Яўген без ваганняў вылучыў сваю кандыдатуру па сталічнай Лермантаўскай выбарчай акрузе №13. У перадвыбарчай праграме Новікава было запісана, што ён «в политическую борьбу вступает впервые». Далей у праграме ішлі даволі папулярныя на той час тэзісы пра дэмакратызацыю грамадства, пашырэнне правоў чалавека, пераадоленне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і г.д.

Акрамя Новікава па гэтай акрузе вылучаліся яшчэ дзесяць чалавек. Сярод іх, напрыклад, — Генадзь Данілаў, тагачасны загадчык дзяржаўна-прававога аддзела Мінскага абкама КПБ (у недалёкай будучыні — правая рука кіраўніка ўрада Вячаслава Кебіча), Міхаіл Ткачоў, доктар гістарычных навук, загадчык рэдакцыі выдавецтва Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Новікаў выйшаў у другі тур разам з Ткачовым з амаль аднолькавым вынікам. З 16656 выбаршчыкаў, што ўзялі ўдзел у галасаванні, яго падтрымалі 3356. Ткачоў атрымаў трохі больш галасоў — 3375. У другім туры Новікаву ўдалося пераламіць сітуацыю на сваю карысць. За яго прагаласавалі 6582 чалавекі з 13115. За Ткачова — 5406.

Атрымаўшы запаветны дэпутацкі мандат, Новікаў імкнуўся актыўна ўдзельнічаць у працы парламента і пазіцыянаваў сябе прыхільнікам нацыянальна-дзяржаўных каштоўнасцяў. Так, 19 траўня 1990 года, ужо на чацвёрты дзень працы першай сесіі Вярхоўнага Савета, Новікаў у катэгарычнай форме патрабаваў ад старшыні Мікалая Дземянцея, каб парламенцкія пасяджэнні вяліся выключна на беларускай мове.

Адначасова Новікаў прадстаў як гарачы прыхільнік Беларускага Народнага Фронту. 28 ліпеня 1990 года Новікаў разам з Галінай Сямдзянавай патрабаваў афіцыйнай рэгістрацыі БНФ сесіяй Вярхоўнага Савета. 10 жніўня 1990 года выданне «Літаратура і мастацтва» надрукавала артыкул Новікава пад назвай «Закон і толькі закон. Да пытання рэгістрацыі БНФ», дзе аўтар даволі пераканаўча даказаў неабходнасць рэгістрацыі новага руху з юрыдычнага і палітычнага пунктаў погляду.

Яўген Віктаравіч падпісваў амаль усе рэзанансныя заявы парламенцкай апазіцыі БНФ, якія тычыліся самых розных бакоў жыцця: кодэкс Беларускай ССР аб зямлі (снежань 1990 года), «паўлаўская» грашовая рэформа (студзень 1991 года), незаконнае прызначэнне даты рэферэндуму аб захаванні СССР (студзень 1991 года), скліканне нечарговай сесіі падчас масавых хваляванняў насельніцтва (красавік 1991 года). Яўген Новікаў быў сярод тых дэпутатаў, якія 15 лістапада 1991 года падпісалі папраўкі да праекта пастановы Вярхоўнага Савета «Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь».

Адна з паправак, у прыватнасці, прапаноўвала Дзяржаўнаму камітэту па эканоміцы і планаванню «прадугледзець першачарговае і поўнае забеспячэнне паперай дзяржаўных перыядычных выданняў на беларускай мове, а таксама літаратурна-мастацкіх выданняў на беларускай мове, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца грамадскія арганізацыі». Праект гэтай пастановы абмяркоўваўся 10 снежня 1991 года і не быў зацверджаны дэпутатамі. Супраць п. 1 выступіў дэпутат Аляксандр Лукашэнка: «Знаете, в партийных документах было: ускорить, повысить, снять, рекомендовать. Это из той оперы. Зачем Верховному Совету принимать такое позорное постановление? Извините меня, что я так сказал».

Падчас драматычных жнівеньскіх падзеяў 1991 года Яўген рашуча стаў на бок нацыянальна-дэмакратычнага руху, а ў газеце «Свабода» надрукаваў артыкул з гучнай назвай «Дзейнасць КПБ незаконная».

У Вярхоўным Савеце Яўген Новікаў прымаў удзел у распрацоўцы і абмеркаванні самых розных законапраектаў: аб прыватнай уласнасці на зямлю, аб цэнаўтварэнні, аб прыватызацыі жыллёвага фонду, аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю. Праз шмат гадоў у сваім аўтабіяграфічным выданні «Мой шыбалет» сябар парламенцкай апазіцыі БНФ Пётр Садоўскі напіша, што «прыгожыя» прамовы Новікава хутчэй раздражнялі, чым натхнялі.

Яўген Новікаў быў не проста дэпутатам Вярхоўнага Савета, а займаў пасаду сакратара пастаяннай камісіі па заканадаўстве. Камісію ўзначальваў дэпутат Дзмітрый Булахаў, які, нягле-

# Лі Стоўн: «Я спадзяюся на мараторый

Аксана КОЛБ

**Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека 10 снежня споўнілася 70 гадоў. Здавалася б, немалы час для разумення таго, што гэты дакумент павінен быць асноўным арыенцірам у палітыцы кіраўнікоў дзяржаў свету. Аднак дасюль шмат дзе парушаюцца нават базавыя правы. Мы сустрэліся з дарадцам па палітычных пытаннях Пасольства Вялікабрытаніі ў Беларусі Лі Стоўнам, які кіруе працай, звязанай з правамі чалавека, каб паразмаўляць пра каштоўнасць правоў чалавека і пра яго працу па паляпшэнні сітуацыі ў Беларусі.**

***— Спадар Стоўн, як выдумаеце, што павінна здарыцца, каб правы чалавека сталі галоўнай каштоўнасцю для кіраўнікоў усіх краін свету?***

— Я б сказаў, што правы чалавека — цэнтральная каштоўнасць у свеце. І дэкларацыя сёння такая ж рэальная, як і 70 гадоў таму, калі яна была падпісаная. Аднак у той жа час прысутнічаюць пэўныя праблемы. Таму з нашага боку, з боку Вялікабрытаніі, ажыццяўляецца прасоўванне правоў чалавека ў якасці асноўнага аспекту ўсяго, што мы робім. Ёсць пэўныя дасягненні: цягам апошніх 70 гадоў быў пэўны прагрэс у гендарнай роўнасці, у правах ЛГБТ-супольнасці. Асаблівы прагрэс быў у сферы свабоды веравызнання.

***— Аднак ёсць краіны, дзе парушаюцца базавыя правы чалавека. Напрыклад, права на жыццё. Што з гэтым трэба рабіць?***

— Я лічу, што дыялог — гэта рэч, якая ўплывае на правы чалавека. Нам трэба размаўляць адзін з адным, разумець адрозненні. Нават тады, калі мы не згодныя з чымсьці, усё ж трэба размаўляць і абмяркоўваць невыгодныя тэмы. І гэта актуальна не толькі для Вялікабрытаніі. Праз двухбаковае супрацоўніцтва, праз ААН, праз Еўрасаюз мы працягваем падымаць пытанні правоў чалавека ў краінах, дзе яны парушаюцца.

***— Адна з такіх краінаў — Афганістан, дзе вы працавалі, калі там ішла актыўная фаза вайны. Якія найбольш вострыя праблемы з правамі чалавека там вы можаце назваць?***

— Найбольшы выклік для Афганістана — канфлікт, які там працягваецца. Аднак урад разумее неабходнасць быць прыхільным справе правоў чалавека і дэманструе працу ў гэтым кірунку. У прыватнасці — над правамі жанчын, адной з найбольш вострых там праблем. Катаванні і зняважлівае абыходжанне ў следчых ізалятарах — другая. Недахоп вяршэнства закона — гэта трэцяе, што знаходзіцца ў фокусе.

***— Што тычыцца вяршэнства права, тут ёсць пэўнае падабенства з Беларуссю. Як вы ацэньваеце сітуацыю з правамі чалавека ў нашай краіне?***

— Так, вядома, падабенства ёсць... Аднак у Беларусі зараз існуе Нацыянальны план па правах чалавека. Другая перыядычная справаздача ААН па Беларусі агучыла пералік пэўных недахопаў — і план дзеянняў уключае працу над імі. І, скажам так, прагрэс у адных сферах быў большы, чым у другіх.

Напрыклад, заўважана, што шэраг НДА зараз маюць больш голасу ў размове з урадам. Важна, каб яны таксама былі пачутыя. І гэтыя рэкамендацыі былі выслуханыя дзяржавай — і ў некаторых выпадках прымененыя. Мела месца рэгістрацыя асобных НДА. Напрыклад, Makeout, якія працуюць над правамі ЛГБТ-супольнасці. І мы чакаем таксама рэгістрацыі іншых НДА ў будучыні. Таксама для ўраду Вялікабрытаніі адзін з ключавых прыярытэтаў — адукацыя дзяўчынак. І Беларусі ёсць чым пахваліцца. Толькі 3% дзяўчынак не заканчваюць школу.

У працы над паляпшэннем сітуацыі з правамі чалавека вельмі важны дыялог. І асабліва ў тых сферах, дзе ў нас няма столькі прагрэсу, як нам бы хацелася, і мы працягваем



**Лі Стоўн: «Мы працягваем падымаць пытанні правоў чалавека ў краінах, дзе яны парушаюцца»**

запускаць механізмы гэтага дыялогу — праз Еўрасаюз, праз ААН і праз двухбаковае супрацоўніцтва.

***— Аднак па-ранейшаму глабальна праблемы з правамі чалавека ў Беларусі застаюцца. У нас дасюль існуе смяротнае пакаранне, не могуць атрымаць рэгістрацыю буйныя праваабарончыя арганізацыі, невыносныя, прыніжальныя ўмовы ўтрымання ў турмах і шмат іншых праблем, якія не вырашаюцца. Ці не падаецца вам, што беларускі ўрад, у такім выпадку, папросту стварае бачнасць таго, што штосьці робіць?***

— Пачнём са смяротнага пакарання. Вядома, Вялікабрытанія хоча, каб Беларусь увяла мараторый — як першы крок да адмены. Я разумею вашу пазіцыю адносна дыялогу, аднак я думаю, што мы мусім працягваць размаўляць з беларускім урадам, як мы робім зараз... І правы чалавека ў нас заўсёды ў павестцы дня. Нашы міжнародныя партнёры робяць тое ж самае, будзь тое ў двухбаковым дыялогу, праз ААН ці праз Еўрасаюз. І мы працягваем дыялог, бо няма сэнсу прыходзіць, паграджаць пальцам і выстаўляць патрабаванні... Гэта не вырашае праблемы.

***— Якія ёсць механізмы, каб заахвоціць беларускі ўрад выконваць правы чалавека?***

— Мы працуем, каб падтрымаць любыя высілкі беларускай дзяржавы ў ажыццяўленні дзеянняў у напрамку правоў чалавека. У нас ёсць шэраг шляхоў, як мы можам гэта зрабіць. Ёсць шляхі мінімальнага ўмяшання, напрыклад, святкаванне міжнародных дзён, якія маюць дачыненне да правоў чалавека, у нашых сацсетках. А таксама шляхам маштабнага ўдзелу — на базе праектаў. Магу прывесці прыклады. Вернемся да смяротнага пакарання. Мінулы год мы працавалі з парламентам, з працоўнай групай па правах

# аднаго «праваабаронцы»

дзячы на маладосць, лічыўся даволі аўтарытарным чалавекам. Хутчэй за ўсё, у іх не склаліся адносіны. 24 красавіка 1992 года пастановай Вярхоўнага Савета Новікаў быў вызвалены ад абавязкаў сакратара камісіі, хаця знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы ў Празе.

## Цудоўная Ліга

Адхілены ад камісіі, Новікаў хутка знайшоў сабе новы занятак — правы чалавека. Час быў спрыяльны. У Беларусі, якая яшчэ па інерцыі дыхала савецкім жыццём, такое пытанне было даволі актуальным. 10 лістапада 1992 года Міністэрства юстыцыі зарэгістравала Беларускую Лігу правоў чалавека на чале з Новікавым, а ў траўні 1993 года выйшаў першы нумар выдання Лігі — «Права человека» накладам 10 тысяч асобнікаў. Галоўным рэдактарам, канешне, стаў Новікаў.

Галоўнай мэтай Лігі абвяшчалася «пропаганда общечеловеческих ценностей и защиты прав человека независимо от его национальной, партийной, религиозной, социальной принадлежности».

Новікаву ўдалося заручыцца падтрымкай вядомых і аўтарытэтных людзей: Святланы Алексіевіч, Валянціна Тараса і іншых, якія сталі сябрамі выканкама Лігі.

На старонках «Прав человека» Новікаў распачаў шырокамаштабную крытыку тагачасных беларускіх уладаў на чале з Шушкевічам–Кебічам: ён абвінавачваў іх у бяздзейнасці, патаканні «правовому беспределу», рашуча стаў на абарону Алексіевіч у верасні 1993 года, калі над пісьменніцай пачаўся суд праз яе нашумелую кнігу «Цынкавыя хлопчыкі», рэзка асудзіў выкраданне з тэрыторыі Беларусі ў студзені 1994 года былых літоўскіх партфункцыянераў Міцкявічуса і Ермалавічуса.

Новікаў шмат увагі надаваў тэме «карнай медыцыны» — выкарыстанне псіхіятрыі ў СССР адносна палітычных вязняў і шырокага кола іншых зняволеных. Ён супрацоўнічаў з часовай камісіяй Вярхоўнага Савета па расследаванні фактаў выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных і рэпрэсіўных мэтах, якая была створана 29 чэрвеня 1990 года на чале з Уладзімірам Заблоцкім. У той жа дзень была прынята пастанова Вярхоўнага Савета аб асноўных задачах і дзейнасці камісіі. У прыватнасці, камісія атрымала права запатрабаваць адпаведныя дакументы з МУС, КДБ і міністэрства аховы здароўя.

У студзені 1991 года Заблоцкі заявіў, што ў камісію звярнулася 100 чалавек. Па словах старшыні, дзякуючы намаганням камісіі ўдалося зняць дыягназ «псіхічна хворы» з шэрагу грамадзян.

Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, Яўген яшчэ заставаўся верным сваім прынцыпам. Напрыклад, 21 ліпеня 1994 года Новікаў выказаўся супраць кандыдатуры Міхаіла Мясніковіча на пасаду віцэ-прэм'ера: ён звязаў імя Мясніковіча з махінацыямі пры рэарганізацыі Беларускай дзяржаўнай страхавой кампаніі ў жніўні 1992 года. Публічна раскрытыкаваў забарону беларускімі ўладамі публікацыі ў СМІ знакамітага «антыкарупцыйнага» даклада дэпутата ад парламенцкай апазіцыі БНФ Сяргея Антончыка і патрабаваў персанальнай аховы для Антончыка і яго сям'і.

А ў студзеньскім нумары «Прав человека» за 1995 год Яўген напісаў сапраўдную крамолу: «Разве можно сегодня утверждать, что первого президента Беларуси выбрал народ? Ведь сначала этот народ за 75 лет многократно оскопили, надругавшись над самим смыслом человеческого бытия, уничтожив тех, кто хоть что-то понимал, тех, кто ещё мог что-то возразить. И после этого всех нас, так называемый белорусский народ, а фактически голодную, мечущуюся в поисках выхода толпу, поставили перед выборами первого Президента. Результаты неудивительны. Каждый народ достоин своего правителя».

1995 год стаў даволі драматычным для Новікава. Па-першае, ён так і не быў абраны ў Вярхоўны Савет 13-га склікання: выбары не адбыліся па прычыне нізкай яўкі выбаршчыкаў; па-другое, у яго перарваліся адносіны з Алексіевіч і Тарасам: яны абвінавацілі Новікава ў палітыканстве і пакінулі Лігу.

А ў красавіку 1997 года «Права человека» апублікавалі зварот Новікава («бывшего студента юрфака») да рэктара БДУ Казуліна ў сувязі з удзелам студэнтаў у акцыях пратэсту супраць інтэграцыі з Расіяй.

Яўген эмацыйна пісаў: так, студэнты бяруць удзел у несанкцыянаваных акцыях. Але хто санкцыянаваў тую галечу, у якой жывуць студэнты і іх сем'і, «кто санкционировал упоминание о Гитлере как об объединителе нации?; что, кроме Гитлера в истории больше нет примеров???» (Новікаў меў на ўвазе скандальнае інтэрв'ю Лукашэнкі ў лістападзе 1995 года нямецкаму выданню «Handelsblatt», у якім беларускі кіраўнік фактычна аддаў хвалу германскай дзяржаўнай мадэлі 1930–40-х гадоў. — Аўт.). І працягваў: «В соответствии с известными историческими правовыми документами, каждый народ имеет право на восстание. Надо поклониться в пояс многострадальному белорусскому народу за то, что даже при такой жизни он находит силу сдерживать себя и не доводить дело до вооружённой борьбы за свои человеческие права, предпочитает последовательно и спокойно усиливать свои нормальные человеческие требования».

Падобныя развагі хутка надакучылі ўладам, і Лігу Новікава фактычна разграмілі. А 30 верасня 1998 года была зарэгістравана больш лаяльная рэжыму Беларуская ліга правоў чалавека. Галоўным рэдактарам «Прав человека» стаў Валерый Дунаеў.

## Трыццаць срэбранікаў

Перад Яўгенам паўстала пытанне, што рабіць далей. Ён бачыў: рэжым Аляксандра Лукашэнкі мацнеў год за годам, у тым ліку дзякуючы суседняй Расіі, а Захад фактычна нічога не рабіў. Новікаў вырашыў пайсці служыць новаму гаспадару.

І Лукашэнка прыняў свайго былога калегу па Вярхоўным Савеце. Гэтаму спрыяла аб'ектыўная сітуацыя. У 2001 годзе павінны былі адбыцца наступныя прэзідэнцкія выбары, і беларускі кіраўнік вырашыў выкарыстаць Новікава — толькі ўжо ў іншай якасці.

У выніку зімой 2001 года з'явілася праграма «Правы чалавека: погляд у свет». Ужо ў першым выпуску праграмы Новікаў абрынуўся на беларускую палітычную апазіцыю, мясцовых дэмакратаў і г.д. Рыторыка Новікава была настолькі агрэсіўнай, што ў гэтым ён мог супернічаць з самім Зімоўскім.

Далей — больш. Пацукі, якіх ядуць у ЗША дзеці, нейкі гарвардскі план па знішчэнні СССР, жывёльная нянавісць да Украіны. Спіс можна не працягваць. Гэта — дэградацыя журналістыкі як стылю мыслення і прафесіі, ператварэнне яе ў дзяржаўную прапаганду самага таннага кшталту.

# на смяротнае пакаранне»

чалавека, каб прааналізаваць, што можна зрабіць у напрамку адмены смяротнага пакарання. Мы выклікалі экспертаў з Вялікабрытаніі і іншых краінаў у рэгіянальныя гарады Беларусі для сустрэч з медыя, са студэнтамі, з праваабаронцамі, з палітыкамі (лакальнага маштабу).

Мы звярнулі ўвагу, што многія людзі дагэтуль не разумеюць усіх праблем, датычных смяротнага пакарання. І мы будзем працаваць над гэтым, у тым ліку і над фармаваннем грамадскага меркавання. Хаця звычайна грамадства не падтрымлівае адмену. Напрыклад, у Вялікабрытаніі падтрымка ў грамадстве смяротнага пакарання перастала пераважаць толькі каля трох гадоў таму.

Мы шмат працавалі і працуем над пытаннем хатняга гвалту. Гэта была ў тым ліку медыя-кампанія адносна вызначэнняў хатняга гвалту і таго, куды людзі могуць прыйсці па дапамогу. Гэта была агульнанацыянальная кампанія — ключавая частка ўсіх нашых уключэнняў. Яна праводзілася па ўсёй Беларусі.

Мы будзем працягваць стаяць за свабоду медыя. Літаральна два тыдні таму наш міністр замежных справаў абазначыў свабоду медыя сваім доўгатэрміновым прыярытэтам на ўсю сваю кадэнцыю. Мы падтрымліваем журналістаў. Спецыялісты з Вялікабрытаніі арганізуюць трэнінгі па выкарыстанні, напрыклад, лічбавых інструментаў, з тым, каб журналісты змаглі пашырыць сваю аўдыторыю і рабіць сваю працу яшчэ лепш і данасіць навіны да насельніцтва краіны.

Таксама адна са сфер, дзе мы дзейнічаем, — гэта ювенальная юстыцыя. Мы спрабуем скарыстаць брытанскі досвед. Адзін брытанскі адвакат рабіў шэраг трэнінгаў для беларускіх суддзяў адносна тых альтэрнатываў зняволенню, якія выкарыстоўваюцца ў Вялікабрытаніі. Гэта ўсё ў 2018 годзе трансфармаваліся ў адмысловы праект, які мы ажыццяўляем разам з ЮНІСЕФ і ўрадам Беларусі, з аднадумцамі ва ўрадзе, каб распрацаваць альтэрнатыўную сістэму правасуддзя для непаўнагадовых.

Усе гэтыя напрамкі пералічаныя ў плане дзеяння па правах чалавека, і мы стараемся заахвочваць гэтую працу.

***— Тым не менш, смяротныя прысуды ў Беларусі дасюль выконваюцца, закон аб хатнім гвалце не прыняты, закон аб СМІ ўзмацняе кантроль, прысуды выносяцца на аснове лжывых сведчанняў — і трэнінгі ніяк не дапамогуць вырашэнню гэтай праблемы. Некаторыя вельмі добрыя законы ў Беларусі папросту не дзейнічаюць. Вам не падаецца, што палітыка дыялога значна менш эфектыўная, чым палітыка санкцый?***

— Я лічу, што санкцыі, — гэта крайні выпадак. Дыялог — найбольш эфектыўны шлях. Ёсць краіны, з якімі мы маем значна большыя адрозненні. Аднак мы ўсё ж захоўваем з імі дыпламатычныя адносіны, пакідаем там амбасады і дыпламатычных прадстаўнікоў. І я думаю, гэта той шлях, якім трэба ісці. Праекты, якія мы там ажыццяўляем, канешне, не прыносяць вокамгненных вынікаў. Аднак мы глядзім на вынік, які яны даюць, і бачым, што маем магчымасць уплываць на перамены праз тое, што робім цягам не аднаго года. І калі бачым, што брытанскі досвед і аналіз могуць быць карыснымі, — запускаем нашы праекты.

***— Вы сярод іншага займаецеся падтрымкай брытанскіх грамадзян, што трапілі ў складаную сітуацыю ў Беларусі. Адзін з выпадкаў, што быў на слыху, гэта сітуацыя з Аланам Смітам. Што вам атрымалася зрабіць? Што не атрымалася? І ўвогуле, як вы ацэньваеце гэтую сітуацыю?***

— Так, гэта справа была шырока вядомая грамадскасці. Хачу сказаць, што Алан атрымліваў той жа ўзровень консульскай дапамогі, як любы іншы брытанскі грамадзянін. Гэта ўключае наведванне яго ў зняволенні так часта, як гэта было магчыма. Я, вядома, разумею складанасці, з якімі ён мусіў сутыкнуцца ў краіне, знаходзячыся ў турме ў краіне, мовы якой ён не ведае. Мы імкнуліся дапамагчы яму, наколькі гэта было магчыма.

Аднак Алан — не адзіны брытанец, што быў у Беларусі. Колькасць брытанцаў, якія наведваюць Беларусь, пастаянна падвышаецца. У 2016 гэта было 7 000 тысяч. Пасля прыняцця бязвізу беларускім бокам у 2017 годзе ўжо было 11 000. Гэта прыблізна раўняецца колькасці беларусаў, якія наведваюць Вялікабрытанію. І мне падаецца, людзі пачынаюць разумець, што Беларусь — гэта тое месца, куды можна прыехаць. Дарэчы, на гульню «Чэлсі» прыехалі больш за 600 заўзятараў з Вялікабрытаніі — і не было консульскіх здарэнняў, што вельмі добра. І ў наступным годзе ў вас будуць праходзіць Еўрапейскія гульні, і мы чакаем шмат заўзятараў з Вялікабрытаніі. Беларусь можа шмат прапанаваць як турыстычная краіна, і я спадзяюся, што многія людзі прыбудуць сюды, каб гэта паглядзець.

***— А Вялікабрытанія не плануе ўвесці аналагічны бязвізавы рэжым з Беларуссю?***

— Не зараз. Аднак магу сказаць, што колькасць адмоваў у брытанскай візе беларускім грамадзянам невялікая — недзе 5–7%.

***— Ёсць меркаванне, што ў кіраўніцтва еўрапейскіх краін і агульных структур ЕС зараз прыйшлі так званыя «прагматыкі», якія гатовыя супрацоўнічаць з любымі дыктатарамі, калі гэта выгадна, а на некаторыя парушэнні правоў чалавека могуць і вочы заплюшчыць. Ці ёсць такая тэндэнцыя? Калі так, то што можна зрабіць, каб прагматызм не прывёў свет да новых дыктатур?***

— Я шмат думаў над гэтым пытаннем. Мне здаецца, тое, што мы бачым апошнія тры-чатыры гады, — амаль не дае магчымасці прадказаць, што адбудзецца на палітычным ландшафце. Як і прадказаць, ці будзе павышацца ці паніжацца колькасць прагматычных лідараў. Аднак факты кажуць аб тым, што свет, у якім мы жывём, змяняецца штогод. Навіны і меркаванні распаўсюджваюцца вельмі хутка. Такім чынам, шанец непаразумення альбо памылак у камунікацыі таксама ўзрастае. Гэта кажа аб тым, што ў гэтыя дні ўсё важней робіцца слухаць, казаць, і не занадта загразаць у аналізаванні. І ў некаторых выпадках, як я казаў, — проста працягваць дыялог і працаваць з правамі чалавека. Мы працягваем ставіць іх у цэнтры ўсяго, што мы робім як дыпламаты. Гэтак жа дзейнічаюць і палітыкі. І мы працягваем дыялог, каб можна было сказаць, што дакумент, які быў падпісаны 70 гадоў таму, і каштоўнасці, якія ў ім былі, працягваюць паважацца. І прагрэс у пералічаных мной сферах таксама працягваецца.

***— Якія перспектывы ў Беларусі ў сферы правоў чалавека?***

— Дакладна вельмі цяжка прадказваць. Але хачу падкрэсліць, што існуе план дзеянняў, якога, дарэчы, наогул не было да 2016 года. Зараз Беларусь выконвае абавязкі, узятыя на сябе ў ААН. Мы працягваем абмяркоўваць сферы, у якіх мы хацелі б бачыць больш прагрэсу, праз ААН і Еўрасаюз. Асабіста спадзяюся на мараторый на смяротную кару. Гэта будзе вельмі пазітыўны крок.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Стаханаўцы-камікадзэ

Новы раўнд перамоваў паміж Масквой і Токіа наконт лёсу Курылаў выклікаў цікавасць у тым ліку сярод аматараў альтэрнатыўнай гісторыі. У іх асяроддзі ўзгадалі, што пасля паразы імперскай Японіі ў Другой сусветнай вайне гучалі ідэі сумеснай акупацыі астравоў саюзнікамі (не толькі амерыканцамі). Планавалася нават высадка дэсанту Чырвонай Арміі на астравы, але ў апошні момант Сталін пайшоў на саступкі ЗША. А што, калі б сумесная акупацыя Японіі сапраўды адбылася? У такім выпадку, як лічаць альтэрнатыўныя гісторыкі, Японія была б падзеленая, як Германія ці Карэя. Хутчэй за ўсё, на востраве Хакайда была б абвешчана Японская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка (ЯНДР) са сталіцай у Сапара. Улічваючы ўсе вядомыя забабоны японцаў — аскеза, адданасць начальству, фанатызм, — гэта быў бы беспрэцэдэнтны сацыяльны эксперымент. На яго фоне цяперашняя КНДР выглядала б «сацыялізмам з чалавечым тварам». Ёсць нават фантазіі наконт руху камікадзэ-стаханаўцаў і чырвоных самураяў. Нягледзячы на фантастычны характар такіх гістарычных канцэптаў, у іх ёсць рэальны прататып. Пасля вайны ў Паўднёвым Сахаліне, які да 1945 года належаў Японіі, многія мясцовыя этнічныя японцы сталі фанатычнымі сталіністамі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Прызнаць дыктатара святым

Іспанская прэса раптам выявіла існаванне ў краіне незвычайнай секты. У яе ўваходзяць прыхільнікі ідэі прызнання дыктатара Францыска Франка (1892–1975) святым. Секта, мяркуючы па ўсім, вельмі сакрэтная. Інакш бы яе сходы ні праводзіліся ў далёкай ад Іспаніі Маскве. Калі верыць газетам, сустрэчы за мяжой былі патрэбныя для таго, каб падрыхтавацца для пачатку каназізацыі Франка. Іспанскія правыя даўно носяцца з гэтай ідэяй, якая, на першы погляд, падаецца экстравагантнай. Не толькі таму, што Франка мае імідж ваеннага злачынцы. Каб атрымаць званне святога, трэба здзейсніць пры жыцці нейкі Божы цуд, пацверджаны сведкамі. Як ні смешна, фанаты Франка такі цуд выявілі. Яны прапануюць лічыць цудам даволі хуткае аднаўленне іспанскай эканомікі пасля грамадзянскай вайны. Акрамя таго, Франка, нібыта, заслугоўвае статусу святога, паколькі амніставаў шмат палонных рэспубліканцаў і выратаваў іспанскі Касцёл ад рэпрэсій з боку камуністаў і анархістаў. Гэта — цуды ад Франка. Так ці інакш, днямі была афармленая петыцыя ў Ватыкан з просьбай распачаць этап, які папярэднічае кананізацыі, — беатыфікацыю Францыска Франка.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. У сталіцу па прадукты

Харчовы крызіс у Туркменістане спарадзіў сцэны, што нагадваюць 1980-я гады ў СССР, калі жыхары перыферыі ехалі ў Маскву ў надзеі набыць прадукты. Праўда «парашутысты» (так называлі тую публіку) шукалі ў сталіцы нейкі дэфіцыт. Што тычыцца Туркменістана, то правінцыялы атакуюць Ашхабад, каб набыць танныя хлеб і муку. Справа ў тым, што на месцах скарацілі нормы выдачы мукі з 6 кілаграмаў на чалавека ў месяц да 10 кілаграмаў на ўсю сям'ю. У сталіцы людзі просяць заможнейшых сваякоў ці знаёмых аддаць ім сваю норму таннай мукі, бо не могуць сабе дазволіць закупляцца ў больш дарагіх прыватных крамах. Зрэшты, набыць муку і хлеб недастаткова, трэба іх яшчэ вывезці са сталіцы. Дарожная паліцыя адлоўлівае іншагароднія аўтамабілі на выездзе з Ашхабада і забараняе вывозіць прадукты. Затое ў аўтобусах, якія выязджаюць са сталіцы, пакуль людзей не правяраюць. Тым часам сітуацыя ў дзяржаўных крамах Ашхабада таксама пагаршаецца. У тым ліку таму, што спекулянты закупляюць танныя прадукты і потым перапрадаюць іх у прыватныя крамы.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Галасаваць з 6 гадоў!

Дэвід Рунцыман, прафесар кембрыджскага ўніверсітэта, у інтэрв'ю «The Guardian» заклікаў змяніць выбарчы кодэкс, каб надаваць грамадзянам выбарчае права па дасягненні ўзросту ў 6 гадоў. Удзел дзяцей у выбарах надасць імпульс палітычнаму працэсу, які будзе больш цікавы і забаўны, лічыць ён. Акрамя таго, пашырэнне клубу выбаршчыкаў дазволіць выправіць дысбаланс у брытанскай палітыцы, калі асноўныя рашэнні прымаюць пенсіянеры — адзіная катэгорыя людзей, якія стала ходзяць галасаваць. Дарэчы, праз засілле «старых» у свой час на рэферэндуме перамагла ідэя выхаду краіны са складу Еўрасаюза. Брытанскія еўрафілы, дарэчы, даўно заклікаюць правесці новы рэферэндум, аднак эліта, што баіцца за імідж Брытаніі, пакуль рашуча супраць. Новы выбарчы кодэкс, на думку прафесара, мог бы стаць падставай, каб склікаць новы плебісцыт. Цяжка сказаць, ці мае прафесар рацыю, аднак яго прапанова дакладна не спадабаецца кансерватарам. Паводле сацыялогіі, узрост наўпрост уплывае на палітычныя сімпатыі. У выпадку Вялікабрытаніі абсалютная большасць маладых галасуюць за левыя партыі.

**Паводле брытанскай прэсы**




Фота www.warrelics.eu

# Перайменаваць Каляды

*Алег НОВІКАЎ*

**Каляды даўно ператварыліся ў самае любімае свята немцаў. Не дзіўна, што палітыкі час ад часу спрабавалі інструменталізаваць 25-га снежня. Часам даходзіла і да спробаў перайменаваць свята.**

Лічыцца, што першымі папулярнасць і маштаб калядных святаў ацанілі ў кайзераўскай Германіі. Яшчэ на мяжы мінулага стагоддзя на калядных паштоўках з'явіліся чорна-бела-чырвоныя арнаменты — фарбы тагачаснага дзяржаўнага нямецкага імперскага сцяга. У часы Першай сусветнай вайны на калядных паштоўках пачалі выяўляць Жалезны Крыж — самую прэстыжную вайсковую ўзнагароду. Адначасова Святога Мікалая і ялінку на тых жа паштоўках і плакатах пасунула выява жаўнера, які адзначае Каляды ў траншэях.

Эфект ад падобнай эксплуатацыі Калядаў быў неадназначны. Некаторыя гісторыкі лічаць, што ў выніку Каляды аказаліся мінай пад імперыю. Калі каляднае меню немцаў пачало складацца выключна з гародніны, крызіс у дзяржаве стаў відавочным для кожнага.

Зеніт інструменталізацыі Калядаў у палітычных мэтах адназначна прыйшоўся на часы панавання нацыстаў. Найбольш піярыўся на гэтай глебе чамусьці Ёзеф Гебельс. Штогод напярэдадні Калядаў міністр прапаганды пазіраваў для афіцыйнай кінахронікі на фоне ялінкі ў кампаніі з дзецьмі.

Любоў гітлераўцаў да Калядаў знешне выглядае трохі дзіўна. Усім вядома, што народжаны на Каляды Ісус быў яўрэям. Каб выратаваць твар, нацысты казалі, што ў аснове Калядаў — арыйскія традыцыі. Нездарма, маўляў, 25 снежня старажытныя германцы святкавалі зімовае сонцастаянне і «адраджэнне сонца». Святога Мікалая называлі ў Трэцім Рэйху пераасэнсаваннем германскага бога Одзіна. А Марыя выглядала на плакатах як стопрацэнтная бландзінка. Праўда, такую версію некаторыя нацысты лічылі апартуністычнай. Найбольш фанатычныя гітлераўцы заклікалі замяніць прыход Хрыста на прышэсце Гітлера, якога трэба было называць «Збаўца-фюрэр».

Эксперыменты з Калядамі мелі месца таксама ў сацыялістычнай Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (ГДР). Значныя рэсурсы агітпропу былі кінутыя на тое, каб пазбавіць свята рэлігійнага падтэксту. Напрыклад, пад руку трапіў так званы «Калядны каляндар» (Adventskalender) — спецыяльны каляндар, які паказвае час, які застаецца да Калядаў. Згаданыя календары, паводле адпаведных цыркуляраў, трэба было называць «Перадкалядныя календары». У школьных і дзіцячых установах былі забароненыя традыцыйныя калядныя п'есы пра нараджэнне Ісуса. Рэлігійныя тэрміны і выразы калядных песень былі замененыя на нейтральную, нерэлігійную лексіку.

Калі верыць газеце «Tagesspiegel», у 1970-я гады на ўзроўні партыйнага кіраўніцтва ГДР нават прайшлі дэбаты наконт перайменавання свята. Партфункцыянеры намагаліся за кошт перайменавання сімвалічна звязаць папулярнае ў народзе свята і існуючы палітычны рэжым. Сярод варыянтаў альтэрнатыўных назваў Калядаў называліся «Свята заканчэння старога года» або «Дзень міру». Аднак прыкладна ў 1979-м камуністы зразумелі, што такая ініцыятыва выглядае камічна.

Адбіваліся на фармаце Калядаў у ГДР і асаблівасці сацыялістычнай гаспадаркі. Напрыклад, ялінкі, якія прадаваліся ў ГДР, выглядалі вельмі кепска. Таму бюргеры часта набывалі на свята адразу дзве ялінкі. Пасля трэба было зрэзаць з адной ялінкі ўсе галінкі і неяк прымацаваць на іншую.

Пасля аб'яднання Германіі Каляды, падавалася, страцілі нейкую палітычную афарбоўку. Праўда, некаторыя палітолагі адзначылі цікавы феномен. Паколькі ў калядных прамовах святары шмат кажуць пра гуманістычныя каштоўнасці, у гэты час звычайна ўздымаецца рэйтынг сацыял-дэмакратаў, праграма якіх апелюе да сацыяльнай справядлівасці. Праўда, гэта з'ява часовая.

З іншага боку, апошнім часам у Германіі фіксуецца эрозія першапачатковай рэлігійнай прыроды свята. Паводле газеты «Bild», цяпер толькі 22 працэнты немцаў адзначаюць Каляды паводле канону, які патрабуе ў тым ліку прысутнічаць на царкоўным набажэнстве. Пры гэтым прыкладна 56 працэнтаў апытаных катэгарычна адмаўляецца ад паходу на Каляды ў кірху або ў касцёл.

У гэтым плане выданне «Der Welt» не выключае імпарту ў нямецкую палітычную дыскусію амерыканскага азначэння «War on Christmas». Гутарка пра спробы бізнесу зарэтушаваць хрысціянскую выключнасць Калядаў, каб уключыць у калядную спажывецкую ліхаманку як мага больш людзей. Напрыклад, у рэкламе прыкладу падчас Калядаў віншуюць не з нараджэннем Хрыста, а з пачаткам зімніх святаў. За акіянам ужо паўстаў рух клерыкалаў, якія выступаюць супраць камерцыялізацыі 25 снежня. Не выключаюць, што з часам у абарону каляднай традыцыі будзе актыўна выступаць і частка немцаў.

Праўда, гэта толькі версія. Фактам застаецца тое, што ўся Германія зараз весела святкуе Каляды. Так што «Frohe Weihnachten!» — «Вясёлых Калядаў!»

# «Жоўтыя камізэлькі» ідуць на Усход?

Алег НОВІКАЎ

**Рух «жоўтых камізэлек», які паралізаваў Францыю, хаатычна распаўзаецца па Еўропе: Іспанія, Бельгія, Нідэрланды, Германія... На чарзе і постсавецкая прастора?**



Фота www.vesti.bb.lv

У раёне станцыі Хоўрына, што пад Масквой, 9 снежня прайшоў мітынг супраць «горадабудаўнічага бязмежжа». Пры гэтым удзельнікі акцыі апранулі жоўтыя камізэлькі — па аналогіі з пратэстоўцамі ў Парыжы. Згаданы выпадак стаў для журналістаў падставай, каб спытаць у расійскіх палітолагаў, ці магчымы ў краіне або ў рэгіёне феномен руху «жоўтых камізэлек»?

Пакуль большасць экспертаў скептычна глядзяць на магчымасць імпарту руху «жоўтых камізэлек» у нашы краіны. Так, у Расіі і ў Беларусі вельмі жорстка кантралюецца вертыкаль улады. Спецыяльныя службы апрыёры рэпрэсуюць любых актывістаў. «Няма цэнтраў кансалідацыі, няма нават дробнамаштабных лідараў, якія здольныя арганізаваць дзесяць—дваццаць чалавек і павесці іх за сабой на вуліцу», — прызнаюць «Новыя Известия».

Зрэшты, ёсць краіны з ліберальнейшымі рэжымамі, такія, як Малдова і Украіна. Тым больш, у Кіеве рашэнне ўраду паднялць з новага года тарыфы на ацяпленне для фізічных асоб сапраўды выклікала размовы пра хуткі бунт «камізэлек», праўда, жоўта-блакітнага колеру. Аднак і ва Украіне наўрад ці магчымы рымейк французскіх падзей. Усялякі прыкметны пратэст украінскія алігархі намагаюцца перахапіць і выкарыстаць ва ўласных інтарэсах.

Аднак пры гэтым большасць экспертаў лічыць, што «жоўтыя камізэлькі» ўскосна паўплываюць на палітычны працэс у нашых шыротах. Перш за ўсё таму, што б'ецца ў сутаргах так званая «мадэль Макрона». Гаворка пра спробу рэалізацыі вялікага пакета рэформ за кошт прыходу да ўлады маладога амбіцыйнага палітыка, накшталт Эмануэля Макрона, які не належыць да карумпаваных палітычных кланаў.

Першапачаткова праект Макрона сапраўды выклікаў шмат спадзяванняў. Многія ўбачылі ў прэзідэнце новы подых, які выратуе не толькі Францыю, але і ўсю Еўропу. Як вынік, у шэрагу краін хутка сфармаваўся заказ на аналагічны тыпаж палітыка. Ахвочых стаць мясцовымі «макронамі» было дастаткова і ва Усходняй Еўропе. Самы вядомы прыклад, мабыць, Святаслаў Вакарчук — лідар украінскага гурта «Океан Эльзи» — які некалькі разоў агучваў намер выставіць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах 2019 года, але да гэтага часу не прыняў канчатковага рашэння.

Зрэшты, напэўна, ужо і не прыме. Сёння ўсё прызнаюць, што «мадэль Макрона» не працуе. Можна знайсці сімпатычнага маладога чалавека, раскруціць яго ў медыя, інвеставаць у яго кампанію, прывесці да ўлады — але ў выніку мы атрымаем, хутчэй, штучны тэхналагічны прадукт, які, да ўсяго іншага, і не карыстаецца асаблівым аўтарытэтам. Нездарма толькі пры Макроне краіна, дзе забастоўкі і пратэсты ў парадку рэчаў, дакацілася да стану, калі амаль 75 працэнтаў насельніцтва настроеныя супраць сістэмы.

Акрамя таго, дзякуючы «жоўтым камізэлькам» у краінах экс-СССР аказалася дыскрэдытаваная ідэя фатальнага геапалітычнага выбару. Палітыкам з гэтага часу будзе цяжэй мабілізаваць электарат, абяцаючы яму ўваход у нейкія рэгіянальныя аб'яднанні. Аказваецца, цяпер паўсюль хапае ўнутраных супярэчнасцяў і праблемаў.

Гэты момант больш за ўсё ўдарыў па цяперашняму рэжыму ў Кіеве, дзе шмат кажуць пра цывілізацыйны маяк у выглядзе NATO, ЕС і гэтак далей. Раптам высветлілася, што большасць французаў у марах бачыць сваю краіну па-за межамі ЕС і Паўночнаатлантычнага альянсу. Прынамсі, падобныя патрабаванні фігуруюць у дэкларацыі «жоўтых камізэлек», што былі апублікаваныя 10 снежня. Каб залагодзіць гэтую супярэчнасць, Парашэнка прыдумаў вельмі цікавы тэзіс. Аказваецца, на Еўрамайдане ўкраінцы змагаліся не за прымітыўныя сацыяльна-эканамічныя інтарэсы, а за нейкую ўзнёслую свабоду.

Праколы ўкраінскай прапаганды любяць абсмоктваць у Крамлі, ігнаруючы небяспечны для сябе аспект. Падзеі ў Францыі абрынулі міф пра тое, што ўсё вырашае не ўрад, а нябачны «рынак» або абстрактная «глабальная кан'юнктура». Як паказвае прыклад Макрона, які пагадзіўся часткова выканаць патрабаванні пратэстоўцаў, пры жаданні адміністрацыя можа знайсці для людзей неабходныя сродкі. У выпадку Францыі гаворка ўвогуле ідзе пра астранамічную суму памерам у 8 мільярдаў еўра. Такая прорва грошай неабходная для ўзняцця мінімальнага заробку, што абяцаў гарант. У расійскіх сацсетках у сувязі з гэтым актыўна задаюцца пытаннем: наколькі сапраўды непазбежнай была нядаўняя непапулярная пенсійная рэформа?

Можна чакаць, што цяпер пратэстоўцы ў нашым рэгіёне — па прыкладзе французаў — будуць прад'яўляць уладам канкрэтныя патрабаванні, настойліва артыкуляваць інтарэсы, кансалідавацца, каб не даць маніпуляваць імі або раскалоць на фракцыі паводле розных інтарэсаў. Самая вялікая інтрыга наконт адаптацыі прыкладу «жоўтых камізэлек» да нашых рэалій тычыцца формаў арганізацыі руху. Французы адмаўляюцца ад любога лідарскага прынцыпу руху. Каардынацыя пратэстаў ідзе праз дэбаты паміж удзельнікамі аўтаномных груп. Між тым, у нас традыцыйна вядучую ролю ў сацыяльных або палітычных ініцыятывах адводзяць правадыру, які абавязкова павінен мець «харызму».

Так што «жоўтыя камізэлькі» сапраўды могуць паўплываць на постсавецкі палітычны цырк. Аднак наўрад ці гэтым той спіс вычарпаны. Перш за ўсё таму, што рэвалюцыя ў Францыі, падобна, працягваецца. У большасці «жоўтыя камізэлькі» незадаволеная саступкамі Макрона, якія той агучыў 9 снежня, і гатовыя зноў ісці на вуліцу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дзмітрый Мядзведзеў



З'езд партыі «Адзіная Расія», кіраўніком якой з'яўляецца Мядзведзеў, адбыўся на мінулым тыдні. З'езд павінен быў адказаць на пытанне, ці застануцца «мядзведзі» на палітычнай сцэне пасля падтрыманай імі пенсійнай рэформы.

Гэтую рэформу расіяне ўспрынялі вельмі крытычна, што адбілася на рэйтынгу партыі, які знізіўся да 30 працэнтаў. Агучаныя на з'ездзе рэцэпты выратавання АР часам выглядалі пацешна. Адзін з дэлегатаў прапанаваў сфармаваць этычны кодэкс чальца «Адзінай Расіі», згодна з якім ён павінен быць сціплым, стрыманым на публіцы, уважлівым да праблем людзей, удзельнічаць у дапамозе суайчыннікам, адказваць за свае словы і гэтак далей. Іншыя прапануюць наладзіць кантакты з грамадзянскімі ініцыятывамі. Прагучала ідэя зрабіць з «Адзінай Расіі» партыю абаронцаў інтарэсаў правінцыялаў супраць «тлустай» Масквы. Прапанавалі таксама зрабіць «Адзіную Расію» і партыяй «сацыяльных ліфтаў», калі кожны актывіст атрымлівае шанец зрабіць кар'еру чыноўніка.

Усе праекты і ініцыятывы выглядаюць, на першы погляд, нядрэнна. Але ўзгадаем, што партыя шмат разоў дэкларавала праекты, стварала платформы, аднак гэта ніяк не адбівалася на жыцці людзей.

У любым выпадку, відавочна, што сябры партыі Мядзведзева не могуць прыйсці да адзінага рашэння. Зрэшты, для Крамля гэта — невялікая страта. Варта нагадаць, што ў Расіі даўно кажуць, што пракрамлёўскі Грамадскі народны фронт (ОНФ) можа стаць пераемнікам «Адзінай Расіі».

### Эва Маралес



Прэзідэнт Балівіі, лідар лацінаамерыканскай левай хвалі атрымаў дазвол балатавацца ў наступным годзе на вышэйшую пасаду ў дзяржаве чацвёрты раз запар. Адпаведнае рашэнне вынес Вярхоўны суд.

Нагадаем, што яшчэ ў лютым 2016 года ў Балівіі прайшоў рэферэндум па ўнясенні зменаў у Канстытуцыю, якія дазволілі б Маралесу пераабірацца ў чацвёрты раз. Праціўнікі ўвядзення зменаў набралі 51,3% галасоў, прыхільнікаў паправак апынулася трохі менш — 48,7%. Тады Маралес заявіў, што прызнае вынікі волевыяўлення грамадзян. Аднак пазней ахарактарызаваў рэферэндум як «перамогу хлусні» і падаў у суд, які, як бачым, стаў на яго бок.

Акрамя дзейнага кіраўніка дзяржавы адабрэнне суддзяў атрымалі яшчэ сем кандыдатаў на прэзідэнта. Другая частка апазіцыйна настроеных палітыкаў, наадварот, заклікала да пратэстаў з нагоды чарговай балаціроўкі Маралеса.

Цікава, што многія левыя таксама асудзілі жаданне Маралеса чацвёрты раз запар стаць балівійскім гарантам, паколькі гэта дыскрэдытуе левы праект на кантыненце.

Так ці інакш, першы этап прэзідэнцкіх выбараў пройдзе ў студзені 2019 года. Застаецца дадаць, што днямі Балівія стала трошкі бліжэй да нас. Эва Маралес заявіў, што расійскія ўлады выказалі зацікаўленасць у пачатку паставак з паўднёваамерыканскай рэспублікі мяса ламы, якое можа з'явіцца і на нашым рынку.

### Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр



Крамп-Карэнбаўэр, як толькі стала лідарам Саюза хрысціянскіх дэмакратаў (CDU) — кіруючай у Германіі партыі, — тут жа сутыкнулася з першай фрондай. Аказваецца, усе дэлегаты з усходніх зямель галасавалі за яе апанента Фрыдрыха Мерца.

Іх матыў звязаны з непапулярнасцю на ўсходзе краіны фігуры Ангелы Меркель, якая, як лічыцца, разглядае АКК (так празвалі Крамп-Карэнбаўэр у прэсе) як свайго пераемніка. Выбар з'езду на карысць АКК, на іх думку, абернецца крызісам усходніх структур CDU, якія знаходзяцца ў вострай канкурэнцыі з правапапулістамі з «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD).

Такі трэнд плюс татальны недавер да АКК на Усходзе можа вельмі дорага каштаваць новай старшыні CDU. У наступным годзе ў трох усходніх землях пройдуць выбары ў рэгіянальныя парламенты. Канфуз партыі на выбарах можа сапсаваць імідж новай старшыні і сарваць задуманую Меркель аперацыю па трансферу ўлады.

Антыпатыю ўсходніх немцаў на адрас CDU узмацняе адсутнасць у новым кіраўніцтве партыі хаця б аднаго прадстаўніка з Усходу. Ці зможа АКК стаць сваёй для немцаў з экс-ГДР, будзе бачна ў траўні, калі абярэцца Ландтаг у Брандэнбургу. Аднachасова немцаў запрасяць прагаласаваць за кандыдатаў у Еўрапарламент.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

# Таямніца вайсковых могілак Маладзечна

**Упершыню я наведаў Маладзечна шэсць гадоў таму. Мяне цікавіла міжваенная польская архітэктура і гісторыя гарнізона Войска Польскага ў Гелянове. Але заўсёды, калі я наведваю новае месца, іду на могілкі.**

«Так, былі ў цэнтры горада могілкі, у тым ліку і вайсковыя, але іх знішчылі», — казалі мясцовыя. Праз нейкі час мне патэлефанаваў мой сябра, гісторык і фалерыст Андрэй Аралін, і сказаў, што непадалёк ад чыгуначнай станцыі «Маладзечна» былі вялікія вайсковыя пахаванні, дзе былі магілы жаўнераў рускага імператарскага, кайзераўскага і польскага войска. «Там шмат польскіх жаўнераў, якія загінулі ў перыяд польска-бальшавіцкай вайны, было пахавана. Але зараз няма нічога. Можа што ведаеш?» — запытаў калега.

На той момант інфармацыі, акрамя ўспамінаў мясцовых жыхароў, не было. І вось днямі іншы мой знаёмы Вадзім Прэўрацкі знайшоў у віленскім архіве дакументы, звязаныя з даваеннымі вайсковымі могілкамі ў Маладзечна. «Магчыма, у 52-га пошукавага батальёна будзе шмат працы», — кажа ён.

Дык якая ж гісторыя была ў маладзечанскіх вайсковых могілак?

## Уратавалі польскія ўлады

Падчас Вялікай вайны 1914–1918 гадоў Маладзечна, па сутнасці, быў прыфрантавым горадам. Пад Смаргонню і Нараччу ішлі жорсткія баі, у выніку якіх рускае войска несла цяжкія страты. У горадзе знаходзіўся лазарэт, куды прывозілі параненых і атручаных. Ахвяр той вайны хавалі на некалькіх могілках. Адны з іх былі ля чыгуначнай станцыі «Маладзечна».

Пра іх ва ўспамінах згадваў генерал Рускага імператарскага войска Алі-Ага Шыхлінскі: «Да 11 гадзінаў я вярнуўся да нашага цягніка, які стаяў на запасным шляху на станцыі Маладзечна, каля штаба 10-й арміі, і далажыў галоўнакамандуючаму аб дзеяннях артылерыі. Дзянікін прасіў і яго туды павезці. Паехалі. […] Калі селі ў аўтамабіль, ён мне сказаў: «Правей дарогі ёсць невялікія могілкі. Там сярод крыжоў вы ўбачыце прыгожую спаласаваную дошку, звярніце на яе ўвагу». Убачыўшы дошку, я спытаўся: у чым справа?

Ён сказаў: «Там ваш адзінаверац пахаваны. Сядзелі ў акопах, раптам з боку немцаў падзьмуў вецер, і яны пусцілі атрутны газ. Усе надзелі адгазнікі, а ў афіцэра яго не аказалася, тады адзін казанскі татарын сарваў з сябе адгазнік і надзеў на афіцэра: «Надзеньце, вам больш патрэбны. Сам ён загінуў, атручаны. Мы яго пахавалі ўрачыста, з пашанаю». І ў іншых месцах у Маладзечне былі могілкі Першай сусветнай вайны.



Жаўнеры 267-га палка рускага імператарскага войска


Жаўнеры 267-га палка рускага імперскага войска

У 1917 годзе імперыя Раманавых сканала. Потым горад занялі кайзераўскія войскі. У 1919 годзе пачалася польска-бальшавіцкая вайна, у выніку якой Маладзечна засталося за палякамі. Улады Другой Рэчы Паспалітай узгадалі пра маладзечанскія жаўнерскія пахаванні ў пачатку 1930-х гадоў. Вось што адзначалася ў лісце, дасланым 29 кастрычніка 1930 года на імя віленскага ваяводы ад павятовага маладзечанскага старасты: «На тэрыторыі горада Маладзечна, на адлегласці каля 3-х кіламетраў ад цэнтра, ля тэрыторыі дзяржаўнага ляснога масіву знаходзяцца даволі вялікія вайсковыя могілкі з часоў сусветнай вайны і польска-бальшавіцкай.

Гэтыя могілкі зусім занядбаныя, не маюць ніякай агароджы, і там пастаянна пасвяцца хатнія жывёлы, якія знішчаюць магілы. З-за адсутнасці матэрыяльных сродкаў магістрат Маладзечна не можа абараніць могілкі ад далейшага знішчэння. Таму звяртаюся да пана ваяводы па распараджэнне на ўпарадкаванне гэтых могілак і пабудову агароджы».

Ужо 12 лістапада 1930 года ў маладзечанскім старостве атрымалі ліст з Вільні, у якім загадвалася прыцягваць да адказнасці тых, хто пасвіць жывёлаў на могілках, і падкрэслівалася, што могілкі… рамантаваліся ў 1927 годзе (быў выкапаны роў, пастаўленыя новыя крыжы і агульны помнік). Аднак маладзечанскі стараста не супакоіўся, і зноў накіраваў ваяводзе ліст з просьбай аб вылучэнні грошай на ўпарадкаванне вайсковых могілак.

Урэшце было прынята рашэнне эксгумаваць парэшткі пахаваных жаўнераў усіх трох войскаў і перапахаваць іх на могілках, якія знаходзіліся на поўначы ад чыгуначнай станцыі «Маладзечна», у накірунку вёскі Цывідаўка. У канцы 1934 года працы былі скончаныя. Хутка адказныя за гэтую справу адрапартавалі, што эксгумацыя парэшткаў тых, хто быў пахаваны на месцы спартовай пляцоўкі (стадыёна), а таксама на плацы Тышкевіча была скончаная.

## Жаўнеры трох армій

У віленскім архіве захоўваецца падрабязны спіс усіх перапахаваных напачатку 1930-х гадоў на старых царскіх вайсковых могілках ля вёскі Цывідаўка. Перш за ўсё, гаворка ідзе пра польскіх жаўнераў, якія загінулі ў баях супраць бальшавікоў у 1919–1920 годзе. Уланы, пяхотнікі, артылерысты, інтэнданты, медыкі — дзясяткі людзей назаўсёды засталіся ў маладзечанскай зямлі. Калі казаць пра вайсковыя злучэнні, то ў спісе пахаваных, сярод іншых, згадваюцца жаўнеры 21, 24, 29, 30, 33, 36, 47, 60, 68 пяхотных палкоў; 1, 2, 3, 4, 5, 6, 8, 9 палкоў пяхоты легіёнаў; 7 і 10 палкоў уланаў, 2-я кавалерыйская брыгада і 1-ы полк швалежэраў; 8-ы полк палявой артылерыі; супрацоўнікі палявых шпіталяў №4 і 294; харцэры, якія загінулі пры абароне Маладзечна ў 1920 годзе.

У спісе можна сустрэць шарагоўца Франца Гакала, які быў жаўнерам «беларускага пяхотнага палка». Таксама было эксгумавана шмат парэшткаў невядомых жаўнераў польскага войска. Сярод іншых з магілы, што знаходзілася побач з Маладзечна на могілкі ў Цывідаўцы, былі перанесеныя парэшткі невядомага польскага ўлана, які загінуў у 1919 годзе. Яго цела было перапахавана ў магіле №54.

Апроч жаўнераў Войска Польскага, службы, якія праводзілі эксгумацыю і перапахаванне парэшткаў, апісалі і пахаванні рускіх жаўнераў. Усяго, паводле іх дадзеных, на могілкі ля Цывідаўкі было прывезена больш за 200 царскіх ваяроў. У спісе жаўнераў Рускага імператарскага войска большасць складалі «невядомыя», аднак ёсць і прозвішчы: Самсонаў, Соскін, Вішнеўскі (267 Духаўшчынскі пяхотны полк, які прымаў удзел у Віленскай і Нарачанскай аперацыях), Рыгор Сідоркін (219-ты Кацельніцкі пяхотны полк), Кузьма Сергеенка (253-га Перакопскага палка) і іншыя. Даты смерці: 1915, 1916 гады. Ёсць там і жаўнеры 378-й Мінскай дружыны. Сярод пахаваных былі і жанчыны. Напрыклад, Елізавета Станіславаўна Мышкевіч, сястра міласэрнасці з 26-га рэзервовага палявога шпіталя.

Пахаванні жаўнераў нямецкага войска, якія загінулі падчас Першай сусветнай вайны і былі пахаваныя ў Маладзечне, датуюцца, у асноўным, лістападам-снежнем 1918 года. Хаім Ота, Гайслер Эміль, Бергер Фрыц, Вансэдлер Ота… і яшчэ дзясяткі кайзераўцаў знайшлі свой супакой на нашай зямлі. Нарэшце, сярод перапахаваных у Цывідаўцы былі палонныя чырвонаармейцы (Кузняцоў, Францаў і іншыя), якія памерлі ў 1920 годзе, польскія вайскоўцы, пахаваныя ў 1921 годзе, і жаўнеры «невядомага войска». Усяго на гэтых могілках, па дадзеных польскіх чыноўнікаў на 1934 год, было перапахавана каля 1100 (!) чалавек.


Брама 86-га палка ў Маладзечна

## Дзе ж могілкі?

«Зараз там нічога няма. Тыя пахаванні знаходзяцца паміж сённяшнімі вуліцамі Лясная і Шаранговіча. Мой бацька ўзгадваў, што ў цэнтры там стаяў вялікі крыж і белая мармуровая пліта, на якой пасля вайны дзеці ў класікі гулялі. Дарэчы, ён казаў, што там было некалькі пахаванняў чырвонаармейцаў з 1944 года, на якіх віселі… медалі «За адвагу». У 1960-я гады могілкі цалкам знішчылі. Чаму? Пытанне рытарычнае. Магчыма, таму, што ў гэтым раёне пасля вайны сялілася шмат былых хутаран, якіх зганялі ў вёскі і гарады. Былі там былыя «андэрсаўцы», і іншыя так званыя «антысавецкія элементы». Мне здаецца, што знішчэнне польскай брамы ў Гелянова і жаўнерскіх могілак ля Цывідаўкі — гэта адна справа. Нехта не жадаў бачыць у Маладзечне сімвалы «панскай Польшчы». Тых, хто знішчаў могілкі, не спыніла, што там і царскія жаўнеры ляжалі. Для іх яны былі «белыя». Цікава, што сталася з пахаваннямі чырвонаармейцаў, якія загінулі тут у 1944-м? Няўжо таксама пайшлі пад бульдозер?!» — разважае Андрэй Аралін.

Будзем спадзявацца, што ўсё ж атрымаецца паставіць на месцы, дзе былі вайсковыя могілкі ў Маладзечна, мемарыяльны знак. Магчыма, гэта будуць каталіцкі і праваслаўны крыж, а магчыма — і простая дошка, на якой будзе пазначана, што на гэтым месцы пахаваныя парэшткі соцень польскіх, расійскіх і нямецкіх жаўнераў, сярод якіх напэўна былі і беларусы. Уласна кажучы, гэта і не важна, кім былі тыя ваяры па нацыянальнасці. Іх лёс — частка беларускай гісторыі, якую варта памятаць і шанаваць.

Аўтар выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў напісанні гэтага артыкула Вадзіму Прэўрацкаму і Андрэю Араліну.

**Фота з архіву аўтара**

# Беларускі біёграф Джорджа Вашынгтона

Вольга СУДЛЯНКОВА

**Ёсць сярод нашых слынных землякоў шмат тых, каго лічаць, хутчэй, прадстаўнікамі суседніх краін. Іх дзейнасць, на жаль, не вельмі вядомая беларусам. Адзін з такіх людзей — Юліян Урсын Нямцэвіч (1758–1841).**

Знакаміты пісьменнік, аўтар шэрагу раманаў, п'ес, паэтычных твораў, перакладчык, асветнік, палітычны дзеяч (дэпутат Сойму, адзін з аўтараў Канстытуцыі 3 мая 1791 года) нарадзіўся ў вёсцы Скокі каля Брэста ў шляхецкай сям'і. Быў ад'ютантам і сябрам Тадэвуша Касцюшкі падчас паўстання 1794 года супраць падзелу Рэчы Паспалітай, разам з ім быў арыштаваны, кінуты ў Петрапаўлаўскую крэпасць.

Пасля вызвалення яны разам вымушаны былі з'ехаць у Амерыку, дзе Нямцэвіч правёў



Ю.У. Нямцэвіч



Сусанна Кін, амерыканская жонка Ю.У. Нямцэвіча

з перапынкам дзесяць гадоў — з 1797 па 1807. Быў знаёмы з Джорджам Вашынгтонам, Томасам Джэферсанам, Джонам Адамсам. У 1803 годзе падчас знаходжання ў Варшаве ён надрукаваў кнігу пра першага прэзідэнта ЗША «Кароткія звесткі аб жыцці і справах генерала Вашынгтона» (Krótka wiadomość o życiu i sprawach Generała Washingtona), якая стала адной з першых публікацый пра Вашынгтона.

Асаблівасць і вартасць кнігі Юліяна Нямцэвіча ў тым, што яна напісана на аснове асабістых стасункаў аўтара з чалавекам, якому Амерыка абавязана і сваёй незалежнасцю, і сваёй палітычнай сістэмай, што сталі прыкладам для многіх іншых краін. Нашаму земляку пашчасціла правесці амаль тры тыдні ў сям'і Вашынгтона, назіраць за ўкладам яго жыцця, звычкамі, адносінамі з роднымі і знаёмымі, гутарыць з ім на розныя тэмы, даведацца пра погляды генерала па многіх тагачасных пытаннях. Гэта і склала змест кнігі «Кароткія звесткі аб жыцці і справах генерала Вашынгтона», якая пабачыла свет праз чатыры гады пасля смерці прэзідэнта.

У першай частцы кнігі — кароткі нарыс пра біяграфію Вашынгтона, заснаваны на публікацыях іншых людзей. Нямцэвіч распавядае пра юнацтва Вашынгтона, пра яго ваенны талент, які перш праявіўся ў вайне з індзейцамі, пра сямейнае жыццё, пра выбары яго галоўнакамандуючым амерыканскай арміяй, пра ролю генерала ў Вайне за незалежнасць, пра праблемы, якія таму даваялося вырашаць падчас гэтых падзей: «Мусіў змагацца з зайздрасцю і непаслухмянасцю. Неадноўчы салдаты неаплачваемай міліцэйскай арміі, даўно церпячы голад, недахоп адзення і нават абутку, альбо пакідалі лагер і разыходзіліся па дамах альбо, узбунтаваўшыся, са зброяй дамагаліся належнага ім. Сваёй паважнасцю, сталасцю, красамоўствам сунімаў гэтыя бурныя хваляванні, улагоджваў узрушаныя пачуцці, знішчаў намеры, якія маглі несці з сабою самыя страшныя вынікі. Цяжка было знаходзіцца ў такіх далікатных абставінах і цяжка было выйсці з іх з вялікай славай» (Тут і далей пераклад Я. Язвінскай).

Нямцэвіч распавядае пра тое, як горача сустракала Вашынгтона і яго армію насельніцтва Нью-Ёрка, Філадэльфіі ды іншых гарадоў, вызваленых ад англійскага войска. «Усе бачылі ў ім вызваліцеля айчыны, усе дзівіліся яго сціпласці, ветлівасці, людскасці, з якой ён абышоўся з лаялістамі (так звалі тых амерыканцаў, якія на пачатку рэвалюцыі перайшлі на бок англічан), мудрасцю спосабаў, якімі ўлагоджваў лютасць старон, што пасля сямі гадоў раздзелу ўпершыню ўбачыліся разам».

Аўтар вядзе размову пра добраахвотную адстаўку генерала з пасады галоўнакамандуючага і поўнасцю цытуе яго прамову з гэтай нагоды, а таксама красамоўна апісвае збянтэжанасць, якую гэты ўчынак генерала выклікаў у амерыканцаў. Даволі падрабязна Нямцэвіч распавядае пра жыццё Вашынгтона ў гады, калі той быў проста прыватнай асобай, пра яго гаспадарчыя клопаты, пра добраўпарадкаванне рэчышча ракі Патамак, паблізу якой стаяла (і стаіць зараз) яго сядзіба Маўнт-Вернан, пра будаўніцтва мастоў і каналаў, што рабілася па ініцыятыве і з непасрэдным удзелам генерала.



Сучасны выгляд музея-сядзібы Нямцэвічаў у Скоках



Маёнтак Нямцэвічаў у Скоках (малюнак Н.Орды, XIX стагоддзя)

Каментар, які робіць Нямцэвіч у канцы першай часткі сваёй кнігі, заслугоўвае таго, каб прывесці яго поўнасцю: «Гэта было шчасце Амерыкі, але, на жаль, яно не ўсім дадзена краінам, што новы яе ўрад пачаўся пад кіраўніцтвам чалавека, які навучыў народ любіць і шанаваць сваю Канстытуцыю. Ён суняў бурлівыя змовы, устанавіў справядлівасць, заахвочваў навукі, земляробства і гандаль, заснаваў банкі, увёў простыя і выдатны спосаб анулявання даўгоў Рэспублікі і пратэрмінаванай платы войску. Адным словам, увёў сучасную фінансавую сістэму.

Двойчы абраны прэзідэнтам, Вашынгтон правёў восем гадоў на гэтай важнай пасадзе. Для такога чалавека, як ён, было дастаткова часу, каб даць новым законам пэўны і паслядоўна несупынны рух і прывесці ўсё ў прыстойны выгляд. Яго пераемніку засталася больш лёгкая праца.

Адважны без ліхацтва, чалавечны без слабасці, шчодры без марнатраўства. Колькі разоў ён прыходзіў на дапамогу няшчасным, колькі разоў узнагароджваў адважныя і прыгожыя ўчынкі! ... Спалучаў таленты і дабрачыннасць, якія ўпрыгожваюць чалавека, — грамадзяніна і чыноўніка, мудрасць, памяркоўнасць, святло, чалавечнасць і сціпласць, цноты, якія забяспечвалі яму пашану і павагу сугрaмадзян-сучаснікаў і нашчадкаў. Такім ён быў як галоўнакамандуючы ад 1775 да 1783, як прыватная асоба ад 1783 да 1789, нарэшце як прэзідэнт Злучаных Штатаў з гэтага года аж да сваёй абдыкацыі ў 1796».

Першая частка кнігі заканчваецца аповедам пра абдыкацыю — добраахвотнае складанне Вашынгтонам прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Аўтар прыводзіць у кнізе поўны тэкст прамовы Вашынгтона ў Кангрэсе падчас гэтай падзеі.

Другая частка ўяўляе сабой дэталёвы аповед пра першае знаёмства Нямцэвіча з Вашынгтонам у канцы траўня 1798 года і пра яго гасцяванне ў Маўнт-Вернан з 2 па 14 чэрвеня 1798 года. Знаёмства адбылося ў доме пані Марты Пэтэрс, унучкі жонкі генерала, куды Нямцэвіча прывёз яго прыяцель Пан Лоў, жанаты на другой унучцы. (Элізабет і Марта — дзве ўнучкі жонкі генерала, блізняткі). Вось як апісвае Нямцэвіч сваё хваляванне перад сустрэчай з генералам Вашынгтонам: «Можна ўявіць, як білася маё сэрца, калі ўбачыў я чалавека, якога паважаў з юначых гадоў, чалавека, якога так не хапала для выратавання маёй няшчаснай радзімы».

Аўтар даволі падрабязна апісвае сваё першае ўражанне пра Вашынгтона: яго постаць, твар, вопратку і перадае змест іх кароткага дыялогу і далейшай агульнай размовы, якая ў асноўным тычылася праблем земляробства. Нямцэвіч прыводзіць жарт, які выказаў Вашынгтон на адрас аднаго са знакамітых людзей, і робіць выснову, што памыляюцца тыя, хто лічыць, што ў генерала адсутнічае пачуццё гумару, бо, як ён кажа, яны «бачылі яго толькі ў лагерах альбо ў прэзідэнцкім крэсле». На наступны дзень Нямцэвіч зноў сустрэўся з генералам у тым жа доме, а потым яшчэ два дні, 24 і 25 траўня, сустракаўся з ім у доме спадароў Лоў.

На развітанне Вашынгтон запрасіў Нямцэвіча пагасціць у яго маёнтку Маўнт-Вернан, куды ён і накіраваўся зранку 2 чэрвеня разам са спадаром Лоў. Нямцэвіч дэталёва апісвае маёнтак Вашынгтонаў Маўнт-Вернан, адзначае разумнасць архітэктуры самога будынка і расліннага атачэння. Іх сустрэла гаспадыня, спадарыня Марта Вашынгтон, сам генерал прыехаў вярхом на кані крыху пазней. Пакуль генерал пераапранаўся, госці агледзелі дом. Нямцэвіч адзначае якасць і стан карцін, якімі аздоблена зала: партрэты генерала і яго жонкі, дзяцей пані Вашынгтон, графа Лафайета з сям'ёй і гэтак далей. З замілаваннем і паэтычна апісвае прыгожыя краявіды, якія адкрываліся вачам з галерэі, — рака Патамак, дрэвы, караблі...

У нядзелю, 3 чэрвеня, генерал Вашынгтон быў заняты напісаннем лістоў, а Нямцэвіч з панам Лоў аглядалі наваколле. Нядзельным вечарам у Вашынгтонаў было даволі многа гасцей, але, як адзначае Нямцэвіч, не было ні музыкі, ні гульняў, бо ў нядзелю «ў Амерыцы ніхто не дазваляе сабе нават ценю забавы». А дзявятай гадзіне ўсе адправіліся адпачываць.

Працяг на стар. 12 »

« Працяг.
Пачатак на на стар. 11

У панядзелак Нямцэвіч і пан Лоў паехалі па палетках і землях Вашынгтона. Нямцэвіч падрабязна паведамляе са слоў сябра пра тое, як атрымаў Вашынгтон тую ці іншую маёмасць, колькі каштаваў той ці іншы кавалак зямлі, як выкарыстоўваюцца землі, якія хатнія жывёлы гадуюцца ў гаспадарцы, як працуюць млын і бровар.

Натуральна, што такое падрабязнае выкладанне з боку аўтара выклікана тым, што, па-першае, яно было цікавае самому Нямцэвічу, які заўсёды марыў мець свой кавалак зямлі і працаваць на ім, па-другое, ён быў упэўнены, што гэта зацікавіць і яго суайчыннікаў. Аўтар паведамляе пра становішча муржынаў (чорных рабоў), пра ўмовы іх жыцця і працы, пра правядзенне вольнага часу і пра іх характары. Ён робіць цікавае назіранне наконт валодання рабамі англійскай і французскай мовамі: у англамоўных сем'ях негры адносна добра валодалі англійскай, у той час як сярод рабоў у французскіх сем'ях валоданне французскай мовай было больш слабае. На яго думку, гэта тлумачыцца тым, што «амерыканскія паны больш кантактуюць, больш размаўляюць са сваімі нявольнікамі, чым французы». Уся інфармацыя пра становішча, звычаі і паводзіны рабоў атрыманая ім як з асабістых назіранняў, так і з аповедаў яго гаспадароў.

У Вашынгтона было каля 500 рабоў. Рабаўладанне заўсёды выклікала ў Нямцэвіча абурэнне, таму тут ён адзначае, што польскія прыгонныя сяляне больш шчаслівыя за рабоў. Пазней ён пазначыць, што, у адпаведнасці з апошняй воляй Вашынгтона, яго рабы былі адпушчаны на свабоду.

У наступны дзень сам генерал паказваў госцю свае землі, здзіўляючы таго ўласнымі тэхнічнымі вынаходніцтвамі розных сельскагаспадарчых прылад, напрыклад, сеялкі і малатарні. За абедам і ўвечары яны доўга размаўлялі на гаспадарчыя і палітычныя тэмы. Тут Нямцэвіч адмятае існуючыя меркаванні пра маўклівасць і некамунікабельнасць генерала: станавіўся гаваркім, калі быў зацікаўлены ў тэме, як, напрыклад, пры размове пра Французскую рэвалюцыю.

Нямцэвіч цытуе яго прамову: «Ніхто не адчуў большую за мяне радасць, калі я даведаўся аб Французскай рэвалюцыі. Прызнаюся, што я ніколі не спадзяваўся, што Францыя калі-небудзь стане сапраўды народнай рэспублікай, у дадатак, у звычаях сапсаваная, у межах расцягнутая, шматлікі народ. У народным характары неспакойная і ні ў чым не ведаючая меры; але я разумеў, што французы створаць нешта падобнае, і нават лепшае за англійскую канстытуцыю. Правілы і дзеянні першага сходу былі скіраваныя на гэта, але неўзабаве памылкі караля, а хутчэй за ўсё, акружаючых яго асоб, слепата шляхты, ...адчынілі ганарыстым і запальчывым дэмагогам поле для крывавых сутычак і з сабою, і з усім светам. Тады знікла першая мэта, дзеля якой пачалі рэвалюцыю. Надышлі вар'яцкія і нягодныя правілы; увесь народ праліваў кроў, пакутаваў праз задумкі і заўзятасць некалькіх задзірыстых верхаводаў... Адно за адным ішлі заваяванні, але ж чым скончылася? Ці сама



Генерал Вашынгтон з жонкай

Францыя зараз вальнейшая і шчаслівейшая, чым была? ... Па-мойму, усё з-за ганарыстасці і жадання грошай. О, бедная свабода. Як жа цябе зняважылі!»

Нямцэвіч адзначае вялікую эмацыйнасць і ўзрушанасць Вашынгтона ў час гэтай прамовы: гнеў вымусіў яго спыніцца.

Тут Нямцэвіч ужо на аснове сваіх назіранняў абагульняе ўражанне пра Вашынгтона. «Вашынгтон можа памыляцца, бо ён чалавек, але, кажучы наогул, гэта вялікі чалавек, беззаганны і бескарыслівы, яго цноты роўныя паслугам, якія ён аддаў сваёй айчыне. У бітвах паказаў адвагу і выдатнае веданне вайсковай справы, у неспрыяльныя і цяжкія часы — сталасць і вытрымку, ва ўсіх абставінах сціпласць і бескарыслівасць. Служыў усю вайну без аніякай платы, а ў часе ўсеагульнага парыву ўдзячных суайчыннікаў ніколі не хацеў прыняць ніякай узнагароды; даказаў нарэшце, што ніколі не прагнуў славы і магутнасці; маючы магчымасць застацца да смерці на чале ўрада і пры найвышэйшай уладзе, добраахвотна адмовіўся ад прэзідэнцтва».

Нямцэвіч апісвае распарадак дня Вашынгтона: устае а пятай гадзіне раніцы, піша альбо чытае да сёмай. А сёмай усе дамашнія і госці павінны быць у сталовай. Сняданак яго складаецца з гарбаты і ляпёшак (лазанкаў) з маісу (кукурузы), змазаных гарачым маслам і мёдам. Адразу пасля снедання на кані аб'язджае свае ўладанні, дае распараджэнні эканому, часта сам бярэцца за сякеру альбо іншыя прылады. Пасля дзвюх гадзін вяртаецца дамоў, пераапранаецца і ідзе да стала. Любіць пагутарыць з прыяцелямі за кілішкам мадэры, пасля абеду чытае газеты, якіх штодзённа атрымлівае каля дванаццаці асобнікаў, адказвае на лісты, зноў вяртаецца да размовы, а дзявятай ідзе адпачываць.

З вялікай прыязнасцю аўтар кнігі апісвае пані Вашынгтон як прыемную, чулую і спагадлівую жанчыну, цікавую суразмоўцу: яна распавядала свайму госцю пра былыя часы, пра звычкі сваіх суайчыннікаў. Яна падарыла Нямцэвічу філіжанку са сваёй манаграмай і назвамі ўсіх Злучаных Штатаў, а яе ўнучка, панна Касціс —малюнак з прыгожымі кветкамі. Такія адносіны былі, несумненна, вельмі дарагімі для Нямцэвіча. «Для мяне ў гэтым шаноўным доме было столькі прыхільнасці і павагі, што і сваяку мець немагчыма», — піша ён.

Хоць Нямцэвічу было цёпла і ўтульна ў доме Вашынгтонаў, але туга па радзіме раз-пораз ахоплівала яго. Неаднойчы ў яго дзённіку гучаць настальгічныя ноткі, бо выгляд Маўнт-Вернана і рака напаміналі яму родныя мясціны. «Як ні прыгожа спяваюць тут птушкі, — піша Нямцэвіч, — далёка ім да чуллівых і салодкіх напеваў нашых салаўёў». У Маўнт-Вернане ён атрымаў лісты ад сяброў з Польшчы. «Маё ўзрушэнне — піша ён — было такім моцным, што выклікала гарачку; я думаў аб маіх сябрах, аб маёй беднай айчыне, у думках мне хацелася перанесціся туды; і ноччу снілася мне, што я ў Польшчы... Але гэта быў толькі сон».

У адзін з вечароў гаворка зайшла пра аўтараў, якія пісалі пра гісторыю амерыканскай рэвалюцыі, Гордана і Рамзея. Генерал даў ацэнку іх кнігам. На яго погляд, перавага першага — у падрабязных звестках пра ваенныя падзеі, а другая прыцягвае сцісласцю і прыгажосцю стылю, трапнасцю вобразаў, глыбінёй заўваг і назіранняў. Як даведаўся Нямцэвіч, абодва аўтары правялі шмат часу ў Маўнт-Вернане, каб азнаёміцца з багатым архівам генерала Вашынгтона.

У астатнія дні многа гаварылася пра пагрозу Амерыцы з боку напалеонаўскай Францыі. І хаця Вашынгтон не меў ніякіх стасункаў з Джонам Адамсам, які змяніў яго на прэзідэнцкай пасадзе, ён выказаў меркаванне, што той добра ведае, што належыць рабіць у такіх абставінах.

15-га чэрвеня Нямцэвіч пакінуў Маўнт-Вернан. «Назаўтра, 15-га, устаўшы перад світаннем, я ў апошні раз абышоў зялёныя гаі Маўнт-Вернана, апошні раз кінуў позірк на адкрыты краявід, на чыстую і цудоўную плынь Патамака, і а шостай гадзіне раніцы, выказваючы ўдзячнасць за гасцінны прыём, жаль ад раставання больш смуткам і маўчаннем, чым словамі, развітаўся з шаноўным генералам, з яго паважанай жонкай, з прыгожай і ветлівай Міс Касціс».

Мусіць яшчэ напярэдадні Нямцэвіч напісаў Вашынгтону ліст, у якім выказаў вялікую ўдзячнасць за дабрыню і гасціннасць гаспадароў Маўнт-Вернана. У лісце Вашынгтона ў адказ сярод іншых слоў ёсць такія: «Тое, што айчына велькапана не такая шчаслівая, якімі патрыятычнымі і шляхетнымі былі яе намаганні, з'яўляецца няшчасцем, якое горка аплакваюць усе прыхільнікі свабоды і правоў чалавека, і калі б мае малітвы ў час жорсткіх выпрабаванняў маглі б мець нейкую сілу, то вы былі б зараз пад уласным вінаградным і фігавым дрэвам (выраз з Бібліі) такімі ж шчаслівымі і цешыліся б такімі пажаданымі дарамі, як цешыцца сваімі люд Злучаных Штатаў».

У лісце Вашынгтон запрашае свайго адрасата зноў пры магчымасці наведаць Маўнт-Вернан. «На жаль, — піша Нямцэвіч, — я не скарыстаўся ветлівым запрашэннем гэтага дастойнага чалавека. Я пражываў у іншых краях; праз паўтара года пасля гэтага ён пайшоў з жыцця».

Кніга заканчваецца лістом пана Лоў да Нямцэвіча, у якім той падрабязна апісвае апошнія гадзіны жыцця і абставіны смерці генерала Вашынгтона, і прамовай Джона Адамса ў Кангрэсе, дзе ён паведамляе пра смерць генерала.

На жаль, ні «Кароткія звесткі аб жыцці і справах генерала Вашынгтона», ні мастацкія творы Нямцэвіча (за выключэннем адной з гістарычных песень), ні яго шматлікія кнігі падарожжаў па Беларусі і Амерыцы і дзённікі не знаёмы суайчыннікам. А яны, без сумнення, заслугоўваюць увагі як шараговага чытача, так і даследчыкаў нашай літаратуры.

Але радуе тое, што ў Скоках адрэстаўраваны музей-сядзіба Нямцэвічаў, які стаў сапраўднай пярлінай сярод турысцкіх славутасцей Брэстчыны, а таксама тое, што некалькі год таму выйшла цудоўная, інфармацыйна насычаная і па-мастацку займальная кніга Анатоля Гладышчука «Нямцэвічы. Сапраўдныя гісторыі».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1295

Падпісана да друку 14.12.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.